*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*




# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 5 чэрвеня 1987 г. № 23 (3381) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.

## У НУМАРЫ:

**Трэцяя ў краіне— Купалаўская!**
Да выхаду ў свет першай на Беларусі персанальнай энцыклапедыі
**2**

*НОВЫЯ ВЕРШЫ*
В. ДАШКЕВІЧА і Г. КАРЖАНЕЎСКАЙ
**4, 8—9**

**Гарызонты мастацкай прозы**
Крытычны агляд Т. ГРАМАДЧАНКА
**5—7**

Развагі А. СІДАРЭВІЧА пра новую аповесць В. БЫКАВА
**6—7**

Апавяданне В. ГІГЕВІЧА
**8—9**

**А ШТО ДАЛЕЙ?**
Артыкул Ю. СОХАРА пра спектаклі Магілёўскага драматычнага тэатра
**10—11**

Артыкул мовазнаўцы А. БУЛЫКІ
**14—15**

Пройдзе не так многа часу, і гэтыя хлапчукі і дзяўчынкі ўступяць у вялікае жыццё. Як важна, каб ужо цяпер побач з імі быў ласкавы і строгі, мудры старэйшы таварыш. Настаўнік. Такі, як Марыя Іванаўна Арлукевіч. Марыя Іванаўна вось ужо 30 гадоў плённа працуе ў пачатковых класах Забалоцкай сярэдняй школы Смалявіцкага раёна. Яна — выдатнік асветы Беларускай ССР.

Фота А. КЛЕШЧУКА.

# ВІНШУЕМ!

Рэдкая, нязвыклая для Лучанка хвіліна адпачынку... Мы прызвычаіліся бачыць яго зменлівы, эмацыянальны твар, прызвычаіліся да яго неспакойнага, рухавага аблічча. Але фотакарэспандэнту давялося інакш убачыць і паказаць кампазітара, чыё імя даўно і шырока вядома ў краіне, чые песні гучаць далёка за яе межамі.

Нямала вандруе па свеце і сам аўтар песень. Дарэчы, вестка аб прысваенні яму ганаровага звання «народны артыст СССР» заспела Ігара Міхайлавіча ў дарозе: вярнуўшыся з творчай паездкі ў Венгрыю, амаль адразу выправіўся да сваіх польскіх калег і сяброў — як член журы папулярнага песеннага фестывалю ў Зялёнай Гуры.

Ён, здаецца, ніколі не бывае самотны: у нескančонай плыні спраў, сярод людзей; у турботах старшыні праўлення Саюза кампазітараў рэспублікі; на канцэртнай сцэне — ля мікрафона, з баянам у руках, ці за цымбаламі, ці за раялем. Якія ж напружаныя, сканцэнтраваныя павінны быць тыя гадзіны, калі кампазітар праглядае дасланыя яму вершаваныя тэксты (а пошта ў яго багатая), чытае паэтычныя падборкі ў свежых часопісах, гартае добра знаёмыя кніжкі класікаў. Калі ён канчаткова «афармляе» новую песню, якая выспявала і нараджалася быццам бы незалежна ад штодзённай сумятні, ад дзесяткаў тэлефонных размоў, абавязковых — і не вельмі, і ад гэткіх жа сустрэч...

Не кожны новы дзень прыносіць новую песню. Але дзён, урадлівых на песні, у Ігара Міхайлавіча Лучанка нямала. Таму шматлікія сустрэчы кампазітара са слухачамі не абыходзяцца без песенных прэм'ер. Лепшыя з іх уваходзяць у музычны ўжытак выканаўцаў і слухачоў. Такіх вядомых, даўнейшых і сёлетніх, песень багата. Розных. Тут і задуменная замалёўка роднага краю, і лірычны маналог, і камсамольскі кліч, і водгалас вайны, і жартоўны напеў, і матывы маленства. А за кожнаю песняй — невычэрпная энергія таленту, неашчадлівыя адносіны да сябе. Рэдкія хвіліны адпачынку...

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**
Фота Ул. КРУКА.

# З УЗНАГАРОДАЙ!

За заслугі ў падрыхтоўцы музычных кадраў, прапаганду музычнага мастацтва і ў сувязі з 50-годдзем з дня ўтварэння Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў Магілёўскае музычнае вучылішча імя М. А. Рымскага-Корсакава Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

●

За шматгадовую плённую работу па падрыхтоўцы музычных кадраў, актыўны ўдзел у эстэтычным выхаванні працоўных і ў сувязі з 50-годдзем з дня ўтварэння Магілёўскага музычнага вучылішча імя М. А. Рымскага-Корсакава Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР узнагародзіў дырэктара вучылішча заслужанага настаўніка Беларускай ССР ІВАНОВА Леаніда Леанідавіча Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Беларускай ССР.

●

За заслугі ў эстэтычным выхаванні працоўных, поспехі ў падрыхтоўцы музычных кадраў і актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіў выкладчыкам Магілёўскага музычнага вучылішча імя М. А. Рымскага-Корсакава НІКІЦІНУ Мікалаю Фёдаравічу і ТУПІЦЫНУ Валерыю Васільевічу ганаровае званне заслужанага работніка культуры Беларускай ССР.

●

За заслугі ў развіцці беларускага музыказнаўства і актыўную работу па прапагандзе нацыянальнага фальклору Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР прысвоіў старшаму навуковаму супрацоўніку Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларускай ССР члену Саюза кампазітараў Беларускай ССР МАЖЭЙКА Зінаідзе Якаўлеўне званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларускай ССР.

# ПРЫСВЕЧАНАЕ СКАРЫНЕ

У Вільнюскім дзяржаўным універсітэце імя Капсукаса адбылося пасяджэнне секцыі аматараў беларускай кнігі клуба «Мажвідас», які працуе пры вышэйшай навучальнай установе. На гэты раз госцем секцыі быў навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР Вячаслаў Чамярыцкі. Ён расказаў пра жыццё і творчую дзейнасць у Вільні Францішка Скарыны.

Расказ беларускага госця дапоўніў прафесар Лявас Уладзіміравас, звярнуўшы ўвагу і на тое, як Літва рыхтуецца да 500-годдзя з дня нараджэння першадрукара.

**У. СТРУМІЛА.**
г. Вільнюс.

НАДЗЁННАЯ РАЗМОВА

# ДУМКІ ЎГОЛАС І... ШЭПТ НА ЗАДВОРКАХ

ДАСЦІПНЫ абывацель пусціў па свеце яшчэ адзін анекдот. Маўляў, перабудова — гэта, як тайга: уверсе шуміць, а ўнізе — ціха...

Рэвалюцыйнымі назвала партыя тыя пераўтварэнні, якія адбываюцца ў нашым жыцці на ўсіх узроўнях — «уверсе» і «ўнізе» нашага грамадства. А таму не магу, не хачу пагадзіцца з аўтарам анекдота. Мне шум перабудовы чуецца і зверху, і знізу. Не чуе, не хоча чуць яго хіба што праціўнік перамен.

Прадбачу здзіўленне, якое можа выклікаць слова «праціўнік» у некаторых чытачоў. А што? Чаму адкрыта не сказаць, што рэвалюцыйны працэс — небезбалючы, што гэта — барацьба, а значыць, ёсць і супрацьлеглыя полюсы? На адным — рэвалюцыйны адыход ад стэрэатыпаў, ініцыятыва, прадпрымальнасць. На другім — бюракратызм, інертнасць, перастрахоўка...

За гэтымі з'явамі, трэба помніць, стаяць канкрэтныя асобы. І змагацца трэба не наогул з тым жа бюракратызмам, а з людзьмі, якія яго ўвасабляюць. Галоснасць і яшчэ раз галоснасць — вось галоўны саюзнік у барацьбе за ўсё новае ў нашым жыцці.

Ёсць яшчэ і так званыя «ціхія» праціўнікі перабудовы. Аб тым, што іх нямала, сведчаць не толькі сродкі масавай інфармацыі, але і наша паўсядзённая рэальнасць.

Здавалася б, усенароднаму асуджэнню падвергнуты бюракратызм, а ён усё яшчэ пышна квітнее ў многіх установах. Колькі перагаворана ды перапісана пра «папературворчасць»! А з вышэйстаячых інстанцый працягваюць сыпацца на галовы практыкаў-гаспадарнікаў усё тыя ж аркушы з інструкцыямі, рэкамендацыямі, прапановамі...

У Драгічынскі райаграпром прыйшла ўвушальная — па намерах — папера. Аддзел агародніцтва і садоўніцтва абласнога аграпрамаб'яднання запатрабаваў падрабязнейшай справаздачы: дзе, што і колькі плануецца пасадзіць на агародах у гаспадарках раёна. Паціскаючы плячамі, адказныя работнікі райаграпрома ў сваю чаргу «націснулі» на спецыялістаў і кіраўнікоў гаспадарак, каб тыя хутчэй далі такія звесткі. Ці прыбавілася пасля такой «працы» агародніны на стале?

Цікаўлюся ў аддзеле жывёлагадоўлі таго ж Драгічынскага РАПА, ці менш стала папер зверху. Адказваюць: папер менш, а дробязнай апекі нават пабольшала. Паперы замянілі... тэлефанаграмамі. Так тут разумеюць перабудову.

Гаспадару на месцы лепш відаць, як і калі араць ці сеяць, — здаецца, аксіёма? Зразумела, маецца на ўвазе сапраўдны гаспадар. Ды і што гэта за гаспадар, калі не мае права рашаць сам, не мае права быць гаспадаром? Але знаходзіліся людзі, якія «на ўсякі выпадак» займалі процілеглую пазіцыю. Так на корані губілі адказнасць за канчатковы вынік.

З кволых парасткаў безадказнасць разрасталася месцамі ў непраходны хмызняк. Сёння ветрам перамен сарвала ўжо нямала леташняга лісця. Цяпер аголены хмызняк навідавоку — бяры і сячы. Але тут якраз і вырастае перад табой постаць «ціхага» праціўніка перабудовы, які глядзіць на цябе хітраватымі вачамі, нібы кажучы: «Навошта так рашуча?. Астынь, як бы чаго гэткага не выйшла...».

Апошнім часам мы вельмі часта паўтараем словы: «руціна», «інертнасць», «бюракратызм». Можа здарыцца, што ад пастаяннага ўжывання гэтыя паняцці страцяць сваю вастрыню, свой адмоўны сэнс. Ёсць такая небяспека. Нездарма народны паэт Беларусі Пімен Панчанка ў вострапубліцыстычнай «Паэме сораму і гневу» так закончыў гэту хвалюючую тэму:

**Я радуюся нашай барацьбе,**
**але баюся зноўку стаць**
**крэтынам.**

Вось і ловіш міжволі сябе на думцы, што і надзённае слова «перабудова», сто разоў без дай нагоды паўторанае, пачынае... траціць нагрузку, свой ККД. Здавалася б, калі было паспець — сапраўдныя зрухі толькі пачынаюцца. А калі яшчэ ў дадатак гучыць правакацыйнае «...а ўнізе ціха» — халадком праціnae спіну.

Сёння аздараўляецца маральна-псіхалагічны клімат у працоўных калектывах, у грамадстве. Усё шырэйшае распаўсюджанне набываюць новыя формы арганізацыі і аплаты працы — калектыўны і сямейны падрад, гаспадарчы разлік. Але пакуль махавік перамен не раскруціўся на ўсю моц, хтонічто мяркуе за лепшае пачакаць: а раптам удасца перасядзець на задворку, у аблюбаваным зацішку?

Яшчэ вельмі інертнай застаецца, скажам, сфера абслугоўвання. Зусім нядаўна яе работнікам удавалася з халодным разлікам «абслугоўваць» у першую, у другую і ў трэцюю чаргу толькі сябе. Такое ўражанне, што і новы Закон аб індывідуальнай працоўнай дзейнасці, і такая прагрэсіўная форма арганізацыі працы, як асабісты і сямейны падрад, не паўплывалі пакуль што станоўча на прадпрыемствы грамадскага харчавання ці службы быту. Можа, таму, што пакуль смельчакоў — адзінкі.

У Брэсце, на вуліцы Савецкай, зусім нядаўна з'явілася сціплая на першы погляд кавярня. Яе гаспадары — муж і жонка Тапароўскія. Яны прапануюць наведвальнікам «сямейную каву» і да яе печыва. А дзённая выручка гэтай падраднай сямейнай пары складае ўжо звыш ста рублёў. Маленькі, кволы, на першы погляд, калектыў адразу ж стаў канкурэнтам бараў і павільёнаў. Сяму-таму гэта ой як не падабаецца...

Свежы вецер перамен яшчэ не ўсюды пранік. Яшчэ сям-там чуецца іранічны шэпт: «а ўнізе ціха».

**Мікола ТРАФІМЧУК,**
**рэдактар газеты «Запаветы Леніна».**
г. Драгічын.

«ЛіМ» ПАВЕДАМЛЯЕ

## «Пралескам» — 30!

Кантата «Зоры над соснамі» І. Лучанка на вершы Э. Агняцвет, А. Вольскага, І. Васілеўскага, У. Някляева і іншых беларускіх паэтаў, а таксама песні і танцы народаў СССР і свету былі з поспехам выкананы на вялікім святочным канцэрце, прысвечаным 30-годдзю лаўрэата прэміі Ленінскага камсамола Беларусі народнага піянерскага ансамбля песні і танца «Пралескі» Рэспубліканскага Палаца піянераў і школьнікаў. Каля 180 юных артыстаў прымалі ўдзел у гэтым святочным відовішчы. (Мастацкі кіраўнік і дырыжор ансамбля В. Яловік, галоўны балетмайстар Н. Супрына).

**П. ГАРДЗІЕНКА.**

## ПЕРАМОЖЦЫ З МІНСКА

У сталіцы Літвы закончыўся конкурс літоўскай савецкай эстраднай песні «Вежы Вільнюса-87», які сёлета праводзіўся дзевятнаццаты раз. У ім прынялі ўдзел і выканаўцы з іншых саюзных рэспублік.

Пераможцам сярод вакальных ансамбляў стаў дуэт з Мінска — Галіна Галенда і Уладзімір Кудрын.

## Вернісаж на заводзе

У Мінскім вытворчым аб'яднанні імя У. І. Леніна стала добрай традыцыяй наладжваць справаздачныя выстаўкі беларускіх мастакоў. На гэты раз завадчане атрымалі магчымасць пазнаёміцца з творчасцю Івана Пратасені. У экспазіцыі больш за сорак акварэляў, а таксама тэматычныя карціны «Мелодыя роднага краю», «Бацькоўскі дом», «Вілія і Свіслач», партрэты.

Члены народнай студыі выяўленчага мастацтва мелі гутарку з І. Пратасенем, які расказаў ім аб сваім творчым шляху, падзяліўся планамі.

**А. ЛАБАДА.**

## Новая опера паводле Караткевіча

У перспектыўных планах Дзяржаўнага тэатра оперы і балета БССР з'явілася новая назва: «Дзікае паляванне караля Стаха». Оперу паводле аднайменнай аповесці Уладзіміра Караткевіча піша малады кампазітар Уладзімір Солтан (лібрэта С. Клімковіч і В. Цюпы). Прыгадаем, што ўпершыню вобразны свет прозы У. Караткевіча быў увасоблены на опернай сцэне ў спектаклі «Сівая легенда». За стварэнне гэтай оперы кампазітар Дзмітрый Смольскі адзначаны Дзяржаўнай прэміяй БССР.

**С. ВЕТКА.**

## Тут жыў паэт

Шматлюдна ў гэтыя дні ў філіяле Літаратурнага музея Якуба Коласа ў вёсцы Мікалаеўшчына. І гэта невыпадкова. Споўнілася дваццаць год з дня яго адкрыцця. За гэты час у ім пабывалі сотні тысяч наведвальнікаў, сярод якіх — пісьменнікі, дзеячы культуры і мастацтва, рабочыя і калгаснікі, настаўнікі, студэнты, вучні, замежныя турысты.

У багатай экспазіцыі філіяла сабраны пісьмы Якуба Коласа да землякоў, цікавыя дакументы, рэдкія выданні твораў, ілюстрацыі, часопісы, матэрыялы аб грамадскай рабоце, планы старой вёскі, карта коласаўскіх мясцін, шматлікія фотаздымкі.

За апошні час філіял музея папоўніўся цікавымі экспанатамі, у тым ліку рэчамі хатняга побыту (судзіны, кадушкі, цэбры, вілы, граблі, косы), якімі карысталіся члены сям'і Міцкевічаў.

У філіяле шырока вядзецца масавая работа. Супрацоўнікі (унук паэта Георг Міцкевіч, яго жонка Зося і іншыя) выступаюць з лекцыямі і гутаркамі, праводзяць тэматычныя экскурсіі па паэме «Новая зямля», трылогіі «На ростанях», «Стаўбцоўшчына ў творчасці Коласа» прымаюць удзел у арганізацыі перасоўных выставак у раёне, падрыхтавалі этнаграфічныя апісанні леснічовак Смольня і Альбуць.

У Смольні ёсць кіёск па продажы кніг, буклетаў і сувеніраў коласаўскай тэматыкі.

**М. ЖЫГОЦКІ.**

## З ПАЭТЫЧНАГА СШЫТКА

### Вячаслаў ДАШКЕВІЧ



●

У народзе скажуць,
Нібы сажай зможуць:
— Хто сябе хваліць,
Таго пярун спаліць.

Дык не спяшы на шалі
Шпурляць свае рублі.
Не важна, кім мы сталі.
Важней—кім стаць маглі.

### Пра шэрых

Адчыняю дубовыя дзверы я.
Як маецеся, шэрыя?
І профіль ваш, і анфас
Не раз забаўлялі нас.
Як ацэньваеце сітуацыю?
Маўчыцё... Маеце рацыю.
Гэта ж вы, небаракі,
Вешалі лозунгі на баракі.
А месца звычайнага пульта
Прымалі за месца культа.
Што, непрыемна слухаць?
Лепей у бубны бухаць?
Лепей пляскаць у ладкі
І думаць, што шлях гладкі?
Я вам спачуваю, шэрыя.
Лопнула ваша імперыя.
Рэвалюцыя не падарунак.
Рэвалюцыя—накірунак.
Наступіла новая фаза.
Для камунізму шэрасць —
абраза!

### Балада

*Савецкім воінам-інтэрнацыяналістам прысвячаецца*

Начальнік ваеннага патруля
Тройку гэту заўважыў здаля.
Ён іх не заўважыць не мог:
Дзялілі адкрыта на трох.
Дзялілі адкрыта—і дзе!
Прыбавіў патруль у хадзе.
Аж скулы ў маёра звяло.
Такога яшчэ не было.
Выклік які! Людзі ж кругом.
Хутчэй затрымаць. Бягом!
Плошча вакзальная звыкла
жыла.
Кожнага сцежка свая вяла.
Мора людское гуло, віравала.
Штосьці было ў ім
ад карнавала.
Снавалі жакеткі, плашчы,
скуранкі.
Пах пірага, шанелі, таранкі.
Бабка купляла замежныя
клёцкі.
У доме насупраць спяваў
Высоцкі.
Пра коней шалёных хрыпела
пласцінка.
Хуткага веку жывая часцінка.
Хто з «дыпламатам», хто
з простым мяшком.
Сёй-той на машыне, а болей
— пяшком.
Чуюцца ўстаўкі то з д'яблам,
то з богам.
Дама прайшлася
з адкормленым догам.
То позірк сярдзіты,
то раптам усмешка.
І кожны—кароль, і кожны —
пешка.
А тыя, што горкую разлілі,
Далёка ў думках адсюль былі.
Якія шчэ людзі, які патруль?
Увагі ніякай. Нуль.
...Чуйнае сэрца начальнік
меў.
За метраў дваццаць усё
зразумеў.
Спыніўся сам і спыніў
патруль.
Гэтыя хлопцы адтуль.
Новенькі ордэн, гарадзь
медалі.
Іх не за гулі хлопцам далі.
Хлопцы, што трэба. Кроў
з малаком.
Запас залаты прымай,
ваенком.
І ўсё-ткі са скідкаю
на адвагу
Трэба зрабіць ім больш,
чым заўвагу.
Выцяла токам маёра нібыта:
Чацвёртая чарка між трох
наліта.
Чацвёртая чарка да краю
наліта.
Лустачкай хлеба зверху
накрыта.
Сцяўся маёр і супраць
устава
Выдыхнуў ціха: «Раўненне
направа!»
І першым узяў пад казырок.
Чэсці салдацкай адкрыты урок.
За ім і патруль, не шкадуючы
ног,
Ударыў па бруку, ударыў,
як мог.
І тыя, што горкую разлілі,
Таксама пад казырок узялі.
І плошча прымоўкла. Ужо
не гудзела.
Плошча сама на сябе
глядзела.
Бабка ў знямозе рассыпала
клёцкі.
У доме насупраць заціх
Высоцкі.
Бег супынілі машыны, аблокі.
І раптам паўстаў ЁН,
прыгожы... высокі.
Рукі раскрыліўшы, к маці
бяжыць.
Чарачка тонка пад хлебам
дрыжыць...
Бег аднавілі машыны, аблокі,
За гэта і паў ЁН, прыгожы...
высокі.

### Чылі-87

З сляпога лёту дыктатуры
Смяюцца сёння нават куры.
Краіну ўжо каторы год
Вядзе аўтапілот,
А піначэтаўская зграя,
Хоць спакваля, ды адмірае.

●

Хто столькі свежых красак
У пук адзін звязаў?
Сцяжыны вузкі пасак
Гару падперазаў.

Хто нам у падарунак
Паднёс такі букет?
Маёвы пацалунак
Дзівосным робіць свет.

●

Берага скіба
Тахкае пад шчакой.
Вялікая рыба
Гуляе з ракой.

Аеру пальцы
Трымцяць угары.
Напамінамі вальса
Ўзыходзяць віры.

Птушаня трапяткое
Побач пырх у траву.
Адчуванне такое,
Быццам вечна жыву.

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

**Выхад «Анталогіі педагагічнай думкі Беларускай ССР» (Масква, «Педагогика», 1986) выклікаў шырокі грамадскі рэзананс. Сваімі думкамі падзяліліся з чытачамі штотыднёвіка вучоны-фалькларыст А. Фядосік і літаратуразнавец Р. Шкраба («ЛіМ», 24.04.1987). Напісаў нам і былы настаўнік са Слуцка Р. Родчанка. Ён, увогуле станоўча ацэньваючы кнігу, выказвае паасобныя заўвагі па яе змесце.**

**Рэдакцыя атрымала таксама калектыўны ліст ад членаў рэдакцыйнай калегіі «Анталогіі», які мы друкуем ніжэй.**

# Яшчэ раз пра «лыжку дзёгцю»

У ГАЗЕЦЕ «ЛіМ» (24 красавіка 1987 г.) была надрукавана рэцэнзія Р. Шкрабы на кнігу «Антология педагогической мысли Белорусской ССР» (выдавецтва «Педагогика», М., 1986 г.). Змешчаная побач з другой рэцэнзіяй (аўтар А. Фядосік), яна падавалася, як іншы, адрозны погляд на кнігу. Як сказана ад рэдакцыі, «Р. Шкраба больш крытычна падышоў да гэтай працы і лічыць, што многіх недакладнасцей і недахопаў можна было б у ёй пазбегнуць».

Мы, вядома, не супраць больш крытычнага падыходу і за тое, каб пазбягаць недакладнасцей і недахопаў, але пераканаіы, што ацэнка кнігі (кожнай) павінна быць па меншай меры аб'ектыўнай, абгрунтаванай. Рэцэнзія Р. Шкрабы гэтымі якасцямі, на жаль, не вызначаецца. Знешне ў рэцэнзіі ўсё быццам на месцы: і назва з акцэнтаванымі прыкметамі аб'ектыўнасці («Што радуе, што засмучае...»), і адзначаюцца асобныя, лепшыя, на думку Р. Шкрабы, са складальнікаў кнігі.

На самой жа справе адносіны рэцэнзента да кнігі яўна прадузятыя. Следам за самавітай назвай і пахвалой у адрас асобных складальнікаў даюцца такія ацэнкі, што можна толькі здзіўляцца, як гэта кніга і свет убачыла, ды яшчэ ў цэнтральным, саюзным выдавецтве!

Сапраўды: «не абышлося без славутай лыжкі дзёгцю. Зрэшты, тут лыжкай не абыдзешся. Каб выправіць усе агрэхі, недакладнасці, скажэнні, чытач павінен узяць на сябе многа абавязкаў: зверыць тэксты па першакрыніцах, выверыць пісьменніцкія пераклады, граматычныя памылкі, даты. Адным словам, быць рэдактарам, стылістам, перакладчыкам, карэктарам...» І далей: «З самага пачатку не быў вызначаны сам прынцып адбору матэрыялу», «...былі занядбаны элементарныя правілы навуковых публікацый», «над падрыхтоўкай кнігі працаваў вялікі калектыў (34 чалавекі), занадта вялікі...»

І пасля гэтых разносных пасажаў, у канцы, ужо як падагульненне: «Талакою добра тушыць пажар або карчаваць лес. Навуковыя публікацыі рыхтаваць, наваліўшыся талакой, не трэба...»

Магчыма, мы памыляемся, так успрымаючы рэцэнзію? Мо і сапраўды ў ацэнках Р. Шкрабы выяўляецца не што іншае, як рашучая непрымірымасць да хібаў. Тым больш, што некаторыя памылкі, якія крытык адзначае, нельга не прызнаць. Напрыклад, ён заўважыў, што ў адным выпадку ў кнізе назва Беларускі дзяржаўны універсітэт надрукавана з малой літары (хаця яна сустракаецца там шмат разоў і пішацца, вядома ж, з вялікай літары), што няправільна ці недакладна перакладзены з беларускай мовы на рускую цэлых пяць слоў, а ў іншым месцы, як гаворыць Р. Шкраба, «згубілася двукоссе».

Вядома ж, і такіх памылак не павінна быць. Але ж ці даюць яны падставу для эпатажу, калі мець на ўвазе кнігу памерам каля 36 друкаваных аркушаў?

Можа, акрамя іх, крытык знайшоў яшчэ грубейшыя? Чытаем у рэцэнзіі: «Анталогія запэўнівае, — піша крытык, — што артыкул І. Мележа «Настаўнік, выхаванне, школа» надрукаваны на стар. 289 кнігі «Жыццёвыя клопаты», а там яго няма. Дый сама гэта кніга выдадзена не ў 1980, а ў 1975 годзе».

Гэта ўжо сапраўды, мабыць, недапушчальна! Але ж... справа ў тым, што абвінавачванне крытыка не мае пад сабою падставы. Такая кніга ёсць! І старонка ўказана правільна (гл. Иван Мележ. Жизненные заботы. М., 1980). Крытык дэзінфармуе чытача, да таго ж, і назву артыкула падае скажона: у І. Мележа «Настаўнік, выхавацель, школа». І, дарэчы, такія скажэнні ў рэцэнзіі не рэдкасць. Р. Шкраба піша: «Анталогія ахоплівае амаль чатыры стагоддзі». Дык не чатыры ж, а пяць! Крытык не прамінуў адзначыць, што ў Анталогіі Сымон Будны «перахрышчаны» на «Симона» (хаця такое напісанне па-руску дапускаецца), а вось сам Яна Ліцынія Намыслоўскага, кажучы яго ж словамі, «перахрысціў» у Ліцінія (гэта па-беларуску?).

Але не будзем упадабняцца крытыку ў вышукванні недакладнасцей. Ёсць рэчы і важнейшыя. Абвінаваціў жа крытык складальнікаў, што яны і прынцыпы адбору матэрыялу не вызначылі, і правілы навуковых публікацый занядбалі. Праўда, якія прынцыпы меў на ўвазе Р. Шкраба — не зусім ясна. *Трэба думаць, што калі* ідзе размова пра Анталогію педагагічнай думкі, то галоўным прынцыпам адбору павінен быць уклад таго ці іншага дзеяча ў развіццё менавіта **педагагічнай ці грамадска-педагагічнай думкі.** Памыляецеся. *Дарэмна будзеце шукаць такое*, напрыклад, у каментарыях, якія дае Р. Шкраба асобным раздзелам Анталогіі — публікацыі пра М. Радзевіча, Я. Л. Намыслоўскага. Першы, аказваецца, трапіў у Анталогію, таму што «быў знаёмы з Дастаеўскім, **жыў на яго кватэры(?)»**, ды яшчэ з сімпатыяй пісаў пра беларускіх дзяцей; другі — «быў чалавекам энцыклапедычных ведаў, вялікага літаратурнага таленту». Праўда, пра апошняга яшчэ сказана як пра «аднаго з пачынальнікаў свецкай адукацыі на Беларусі, асветніка, педагога, аўтара вучэбных дапаможнікаў на лацінскай, польскай, нямецкай мовах». Гэта ўжо сапраўды з галіны гісторыі школы і педагогікі. Але... прыведзеная характарыстыка не належыць Р. Шкрабе, а ўзята ім (слова ў слова) з уступнага артыкула ў Анталогіі (аўтар Я. І. Парэцкі), толькі ў Р. Шкрабы, кажучы яго ж словамі, «згубілася двукоссе».

Пасля такога «аналізу», калі чытаеш далей рэцэнзію, дзе сказана, што «на добрым навуковым узроўні падрыхтавалі публікацыі» (пералічваюцца асобныя аўтары), то і не ведаеш, за што хваліць крытык асобных складальнікаў кнігі, бо ў пераліку аўтараў публікацый «на добрым узроўні» сустракаеш, напрыклад, імя В. Шалькевіча (напісаў і, на наш погляд, добра пра К. Каліноўскага), а праз некалькі абзацаў даведваешся, што «Мужыцкая праўда» К. Каліноўскага ўвогуле невядома чаму трапіла ў Анталогію!

Магчыма, у крытыка свой уласны погляд на педагогіку. Ён жа заяўляе: «Нельга разумець педагогіку як навуку без межаў і берагоў». *Дапусцім* (нагадаем толькі, між іншым, што педагогіка і педагагічная думка, — а яна можа быць і філасофска-педагагічнай, грамадска-педагагічнай, — не адно і тое ж). Але ў такім выпадку чаму ж крытык так *настойліва аспрэчвае ўключэнне* ў Анталогію верша Я. Купалы «Ці ж не доля мая», у якім, асуджаючы існаваўшы лад жыцця ў якасці аднаго з самых важных палітычных матываў свайго пратэсту, паэт выказваў думку пра тое, што царызм *свядома трымае народ у няволі*, цемры і забітасці, **пазбавіўшы яго школы і асветы?**

Р. Шкраба процістаўляе гэтаму вершу артыкул Я. Купалы «Ці маем мы права выракацца роднай мовы», які, як сцвярджае крытык, «мае самае *непасрэднае дачыненне да педагогікі*», але «чамусьці не трапіў» у Анталогію. Шкада, што крытык не прыводзіць доказаў.

Логікі навуковай у рэцэнзіі, як бачым, мала. Улавіць яе, ва ўсякім выпадку, не ўдаецца. Але без асаблівай цяжкасці паступова ўлоўліваецца нешта іншае. Яно ў намёках, недагаворках па адным вельмі складаным і далікатным пытанні — пытанні пра адносіны да беларускай мовы.

Пачатак гэтаму і кладзе, уласна, размова пра згаданы артыкул Я. Купалы пра беларускую мову, што, як падкрэсліваецца ў рэцэнзіі, па віне ўкладальнікаў ці рэдактараў не трапіў у кнігу. Трохі ніжэй чытаем: «З артыкула М. Багдановіча пра навучанне дзяцей беларускай мове... у Анталогію трапіла дзевяць радкоў». Пасля — зноў такое ж, ужо ў дачыненні да твора І. Мележа. Нарэшце ідзе і абагульненне: «так здараецца не раз. Як толькі заходзіць гаворка пра беларускую мову, дык ставіцца шматкроп'е». На ўсякі выпадак, праўда, крытык робіць абмоўку: «Не думаю, што гаворка павінна ісці пра нейкую тэндэнцыю, хутчэй пра недагляд».

*Мусім заявіць катэгарычна*: **Р. Шкраба свядома дэзінфармуе чытачоў «ЛіМа». У Анталогіі няма і следу ад таго, на што намякае крытык (на непаважлівыя адносіны да роднай мовы.—Аўтары). Як можна гаварыць пра нейкую «тэндэнцыю»** *ці нават* **«недагляд»,** калі пытанне аб значэнні нашай мовы для навучання і развіцця культуры закранаецца ў 19 (!) раздзелах-персаналіях, прычым у некаторых (Цётка, Колас, Тарашкевіч, Гурскі, Падгайскі і інш.) па 2—3 разы?! Акрамя *таго, гэтае ж пытанне* ставіцца і ў артыкулах, якія папярэднічаюць тэкстам, што друкуюцца ў кнізе. І, дарэчы, вышэйзгаданы артыкул Я. Купалы таксама не абыдзены ў Анталогіі: пра яго гаворыцца ва ўступе да публікацый Я. Купалы.

Але пра гэта ў Р. Шкрабы ні намёку!

І апошняе, у чым няма логікі навуковай, але ёсць логіка іншая, прыхаваная ў падтэксце. Гэта датычыцца «парад» Р. Шкрабы, каго патрэбна было *яшчэ ўключыць* у Анталогію. Р. Шкраба сцвярджае, што ў Анталогіі называюцца «прозвішчы педагогаў, працы якіх не зрабілі больш-менш прыкметнага ўплыву на педагагічную думку, а цяпер і зусім забытыя». Каго мае на ўвазе крытык — не гаворыцца, бо ў адваротным выпадку трэба ж было даказваць: сапраўды забытыя ці не зусім. Затое Р. Шкраба называе некалькі імён пісьменнікаў, якія ў Анталогіі «павінны абавязкова быць».

Ні ў якой меры не аспрэчваем заслуг названых пісьменнікаў перад школай, пісьменнікаў вельмі паважаных, папулярных у дзяцей і дарослых, ні ў якой меры не хочам зменшыць педагагічнай, выхаваўчай вартасці і значнасці іх твораў. Дык чаму не ўключылі? Чытач, паглядзеўшы змест кнігі, без цяжкасці здагадваецца, што ў Анталогію ўключаны толькі тыя дзеячы, чый жыццёвы шлях ужо скончыўся, і наадварот, не ўключаныя тыя, чыя дзейнасць шчасліва працягваецца.

Дык, нарэшце, пра «лыжку дзёгцю». Ці ёсць яна ў Анталогіі? Р. Шкрабе, скажам пэўна, адшукаць яе не вельмі ўдалося...

**Яўген БАБОСАЎ, Міхась ЛАЗАРУК, Іван НАВУМЕНКА, Міхаіл ПІСКУНОЎ, Галіна СЯНЬКЕВІЧ — члены рэдкалегіі Анталогіі.**

## КНІГАПІС




А. БУЛЫКА. З моў блізкіх і далёкіх. Серыя «Скарбы мовы». Мінск, «Народная асвета», 1986.

**Словы народнага песняра Якуба Коласа: «Кожны наватвор і запазычанне толькі тады атрымаюць распаўсюджанне, калі яны будуць адпавядаць духу мовы і яе фразеалагічнаму складу», вынесеныя на вокладку кнігі А. Булыкі «З моў блізкіх і далёкіх», у пэўнай меры раскрываюць яе змест. Аўтар расказвае, як у розныя часы ў беларускую мову пранікала іншаземная лексіка, паказвае якую ролю выконвалі запазычанні, уплываючы на фарміраванне новых слоў, як склаўся ў далейшым іх лёс.**




В. МЫСЛІВЕЦ. Лясная кладоўка. Мінск. «Ураджай», 1986.

**Чалавек і лес — так коратка можна вызначыць змест новай кнігі Валянціна Мысліўца «Лясная кладоўка». Змест зборніка склалі нарысы, у якіх уражанні маленства аўтара падмацаваны пазнейшымі жыццёвымі назіраннямі. Пісьменнік расказвае пра людзей, улюбёных у прыроду, з якімі яму неаднойчы даводзілася сустракацца, гаворыць аб рацыянальным выкарыстанні прыродных рэсурсаў і, у першую чаргу, дароў лесу.**




У. НАВІЦКІ. Два светы — дзве дэмакратыі. На рускай мове. Мінск, «Навука і тэхніка», 1986.

**У кнізе на багатым фактычным матэрыяле раскрываецца перавага дэмакратыі сацыялістычнай над дэмакратыяй буржуазнай. Значная ўвага аўтарам удзелена паказу развіцця палітычнай сістэмы савецкага грамадства, павышэння кіруючай ролі Камуністычнай партыі на сучасным этапе.**



ДАПАМОЖАШ ТЫ — І ТАБЕ ДАПАМОГУЦЬ. Афганскія казкі. Серыя «Казка за казкай». Для дзяцей дашкольнага ўзросту. Мінск. «Юнацтва», 1986.

**Афганскія казкі «Дапаможаш ты — і табе дапамогуць», «Воўк-даносчык», «Падышах і садоўнік», «Справядлівы суддзя», перакладзеныя на беларускую мову М. Пазняковым, далучаюць юнага чытача да жыцця свабодалюбівага народа, вучаць дабру, справядлівасці.**

## ЛІТАРАТУРНЫ ПРАЦЭС: НАЗІРАННІ, ЗАЎВАГІ, ДУМКІ

# У ЧАКАННІ СВЯТА

Таіса ГРАМАДЧАНКА

НЯЛЕГКІ ХЛЕБ аглядальніка! Пэўна, Галубовіч-паэт не выклікаў і дзесятай долі таго непрыняцця, непагаднення, што выклікаў Галубовіч-крытык аглядамі паэзіі. Тут не схаваешся за праблему, не абмінеш прахадны твор знакамітага пісьменніка ці слабы твор рэдактара (ад якога залежыць у пэўнай ступені і лёс тваіх будучых публікацый), не ўхілішся ад ацэнкі напісанага добрым знаёмым. Тут, можа, як мала дзе, навідавоку твой «узровень», чалавечы і навуковы, тваё адчуванне літаратуры і жыцця, тваё ўменне зразумець і сказаць, твае сімпатыі, недахопы і слабасці... Зразумелую ў дадзеным выпадку нерашучасць дапамагае пераадолець думка, што агляды патрэбны, што іх не могуць замяніць рэцэнзіі і праблемныя артыкулы. Няхай кожны жанр робіць сваю справу.

●

Аднак у сучаснай прозе раўнапраўе жанраў чыста тэарэтычнае. На практыцы шлях у «вялікую» літаратуру звязваецца з раманам, у крайнім выпадку з аповесцю. Апавяданне ж для многіх пісьменнікаў стала нечым накшталт перапынку паміж стварэннем чарговых «эпапей». Таму ці варта здзіўляцца, што за апошнія паўгода не з'явілася яркіх, па-мастацку адметных твораў малога жанру. Можна, праўда, назваць апавяданні С. Тарасава «Крыж» («ЛіМ», 21.12.1986) і В. Шалкевіча «Крылы» («Беларусь», 1986, № 12), калі браць пад увагу, што гэта першая спроба пяра. Можна адзначыць «Дзеці на сцежцы» Янкі Брыля («Полымя», 1987, № 1), калі разглядаць яго асобна ад многіх папярэдніх, у якіх аўтар таксама з замілаваннем назірае за ўнукамі.

Чакалася, што апавяданне стане першаадкрывальнікам новых тэм і герояў. Так, прынамсі, было неаднойчы пры рашучых і рэзкіх паваротах у грамадскім жыцці. Аднак пакуль што «малая форма» мірыцца са сваім перыферыйным становішчам у літаратуры, жыве ў асноўным за кошт адкрытага раней.

«Чаму яны цяпер такія: слухаюць цябе, ды не разумеюць?.. Чаму?» — пытаецца ў сябе герой А. Капусціна Васіль Макаравіч пасля размовы з сынам сябра. «Яны», — безумоўна, нашы маладыя сучаснікі. У апавяданні «Дуб у полі» («Полымя», 1987, № 2), такім чынам,— знаёмае па іншых творах супрацьпастаўленне старэйшага пакалення, неабыякавага да працы і хараства навакольнага свету, маладому, абыякаваму, Знаёмыя па творах папярэднікаў і героі апавяданняў М. Ракітнага «Высокі падмурак», М. Гіля «Праменьчык святла» («Беларусь», 1987, № 2 і 1986, № 10), Л. Калодзежнага «Горкі наедак рэдзька» («ЛіМ», 6.04.1987), А. Казлова «Сварка» («Маладосць», 1986, № 11). Гэта таксама людзі сталага веку, шчырыя працаўнікі і гаспадары. Аднак «знаёмая» тэма ці «знаёмы» герой яшчэ мала што гаворыць пра сам твор. Прычына, чаму названыя творы не нясуць у сабе мастацкага адкрыцця, пэўна ж, у чымсьці іншым.

М. Гіль у апавяданні «Бралася на дзень» («Полымя», 1987, № 2) звярнуўся да праблемы, якая раней замоўчвалася літаратурай — герой твора былы алкаголік. Праўда, твору нестае глыбіні асэнсавання марна прайшоўшага чалавечага жыцця.

Здаецца, не зусім утаптанай сцежкай ідзе і аўтар «Апошняга дня месяца» П. Кавалёў («Беларусь», 1986, № 10). Героем твора стаў кіраўнік гаспадаркі, які канфліктуе з раённым кіраўніцтвам, бо не згодны нешта рабіць толькі дзеля справаздачы. Пачынаецца апавяданне з досыць сур'ёзнай заяўкі: «Мне, немаладому ўжо чалавеку, старшыні калгаса са стажам, надоўга запоўніўся той апошні дзень кастрычніка. Гэта быў дзень майго абуджэння і пераасэнсавання сваіх і чужых учынкаў». Што ж здарылася са старшынёю? А вось што: яго думкі і думкі першага сакратара райкома партыі наконт метадаў кіраўніцтва супалі. Пісьменнік нікольві не іранізуе над героем, не ставіць пад сумненне «значнасць» выпадку.

Як можна ўпэўніцца, і «старыя», і «новыя» тэмы аднолькава не працуюць, калі аўтар не здолее раскрыць непаўторнасць свету чалавека, паказаць праз чалавечы характар час з яго супярэчнасцямі і складанасцямі. А бяда многіх апавяданняў менавіта ў гэтым. Так, не кранаюць, не выклікаюць адпаведнага суперажывання трывогі, радасці і клопаты герояў твораў В. Трыхманенкі «Хацелася б верыць», І. Канановіча «Сустрэча», М. Даніленкі «Таццяна Салавей» («ЛіМ», 23.01, 20.02, 20.04.1987), Г. Станкевіча «Адхіленне» («Маладосць», 1987, № 2) і інш.

Разважаючы над таямніцай мастацкасці, В. Быкаў піша: «Чаму неадукаваны дзед з пасляваеннай вёскі цікавейшы за іншага «інтэлектуала», заклапочанага лёсам народаў, у той час як наш дзед не можа вырашыць лёс адзінай сваёй рагулі, якая засталася на зіму без сена? Пра тое клопат яго, і ён нас кранае больш, чым драматычныя перажыванні каго-небудзь з памянутых мною перад адыходам на заслужаны адпачынак?..» Пры пэўнай аднабаковай скіраванасці пытання думка пісьменніка ніяк не аднабаковая: мастак адкрывае новае і цікавае і там, дзе, здаецца, усё даўно вядома.

І ўсё ж не на карысць літаратуры, калі яна не адно дзесяцігоддзе ў цэнтры ўвагі трымае «пасляваеннага дзеда» і бабулю ці настальгічныя ўздыхі па вёсцы маленства гараджан у першым калене, а на новыя, народжаныя іншымі пакаленнямі праблемы не звяртае ўвагі. Варта прызнаць, што ў нашай прозе мала твораў, якія будзяць грамадскую думку, якія спрабуюць асэнсаваць сучаснасць. «Аднатэмнасць» беларускай прозы асабліва кідаецца ў вочы пры знаёмстве з навелістыкай.

●

На пошукі новага прэтэндуе неразваротлівы, неаператыўны жанр. На такую думку наводзяць апошнія раманы В. Казько, В. Гігевіча, І. Новікава, а таксама А. Асіпенкі, Г. Марчука, І. Шамякіна, якія з'явіліся зусім нядаўна. Урэшце і раман А. Карпюка «Карані» («Полымя», 1986, №№ 11, 12) пры ўсёй звыкласці і нескладанасці канфлікту (пакуты старога чалавека, адарванага дзецьмі ад роднага вясковага асяроддзя і перасаджанага на гарадскі асфальт) таксама ўспрымаецца не без цікавасці. У творы ёсць жывыя, сур'ёзныя назіранні над сучаснай рэчаіснасцю. Пісьменнік з трывогай гаворыць, што сённяшні дзень, пра які светла марылі, за які змагаліся і гінулі лепшыя людзі ў гады грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў, далёка не ва ўсім разумны і дасканалы. Бачыць ён небяспечнасць фармалізму ў выхаванні маладога пакалення. Увогуле раздзел «Ветэран і вучні» ў рамане — адзін з лепшых як у плане паказу эмацыянальна-псіхалагічнага стану героя, так і ў плане слушнасці ўзнятай праблемы. Тыя «люберы», якія могуць цынічна кінуць неаднойчы параненаму воіну-афганістанцу «А што там такога? Едуць хлопчыкі прыбарахліцца ды хапануць грошай» (пра гэта нядаўна пісала «Правда», — яны таксама нашы, не з-за мяжы прывезены. Іх таксама вучылі паважаць мужнасць, сумленнасць, быць падобнымі на герояў. Толькі, відаць, «далучэнне да подзвігу адбывалася так, як паказвае А. Карпюк. «У класе запанавала спачувальнае маўчанне. Аднак Лаўрэн сэрцам адчуў, што гаварыў зараз гэтым хлопчыкам і дзяўчаткам хоць і пра вайну, ды ўсё яшчэ вайна яго была далёка не тая, якую маладзенькія слухачы патрабавалі.

Выручыць ветэрана ўзялася настаўніца.

— І ўвогуле, з коньмі, мабыць, Лаўрэн Яфімавіч, было вам не соладка на вайне! Усе брыклівыя, упартыя, а некаторыя яшчэ, як вы самі тут гаварылі, кусаюцца ды не слухаюцца, церпкім потам ад іх нясе,— зморшчыла яна востры носік. — А тут трэба па немцах страляць і глядзець трэба, каб не прарваліся п'яныя фашысты ды не пайшлі ў тыл, праўда?

Лаўрэн са здзіўленнем паўзіраўся на дробную кабетку...»

Г. Марчук у «Кветках правінцыі» («Полымя», 1986, №№ 10, 11) звярнуўся да матэрыялу, мала даследаванага беларускай літаратурай, — пасляваеннага мястэчковага жыцця. Аўтару рамана, думаецца, у цэлым удалося перадаць чытачу пачуцці любові і спачування да сваіх землякоў.

Пасля вайны, паказвае пісьменнік, адроджаная прамысловасць вялікіх гарадоў набрала моцы і пачалося маўклівае, драматычнае паміранне славутага калісьці рамесніцкага гарадка (падзеі ў творы звязаны з канкрэтным населеным пунктам — Давыд-Гарадком). «Павярнуць на старое, калі сам сабе быў пан, чым хацеў, тым гандляваў, ужо было немагчыма. Гэта разумелі і гарадзецкія майстры, як бы спаважна, бы той буська на сенажаці, ні хадзілі па вуліцах гарадка. Рэдка хто з іх паказваў слязу, калі на працягу двух тыдняў, месяца не было аніякіх заробкаў. Плакалі больш жанкі. Уначы. А ранкам нязменна адказвалі:

— Дзяньдобры. Дзякуй богу, мацуемся.

Ломка адвечнага ўкладу жыцця заўсёды няпростая, яна балюча адбіваецца на чалавечых лёсах. З заняпадам рамесніцкіх гаспадарак перад колішнімі знакамітымі майстрамі востра паўстала праблема працаўладкавання — прадпрыемстваў, заводаў гарадок не меў. Гэта справа не аднаго дня, таму праз гады з'явілася шмат людзей «беспенсійнага пакалення», для якіх асноўным заняткам стаў гандаль насеннем кветак. І ў чым, як раней у саматужных мануфактурах, убачылі выявы мяшчанскай і ўласніцкай псіхалогіі. На фоне гэтых падзей аўтар паказвае станаўленне і ўзмужненне асобы галоўнага героя, пісьменніка Адася Долі, яго няпросты шлях да людзей, сярод якіх нарадзіўся.

На жаль, у творах Г. Марчука і А. Карпюка выразна выявіліся выдаткі, якія можна назваць увогуле выдаткамі нашага сучаснага рамана, настолькі часта яны сустракаюцца. Неабавязковасць асобных сцэн і эпізодаў, апісальнасць, расцягнутасць, недастатковае асэнсаванне жыццёвых фактаў — усё гэта ў той ці іншай ступені прысутнічае ў «Кветках правінцыі» і «Каранях», зніжаючы мастацкую значнасць твораў.

Больш дасканалым і больш цікавым з боку формы з'яўляецца раман А. Асіпенкі «Святыя грэшнікі» («Маладосць», 1987, №№ 1—3). Праўда, трэба адзначыць, твору часам бракуе псіхалагічнай заглыбленасці. Аўтар быццам знарок праспешвае героя, не даючы яму засяродзіцца на нейкай адной думцы, адным перажыванні. Магчыма, такое ўражанне склалася з-за скарачэнняў, з якімі друкаваўся раман.

І ўсё ж твор А. Асіпенкі дае падставы для гаворкі. Думаецца, пісьменнік здолеў паказаць тое, аб чым нядаўна сказаў на сустрэчы ў г. Душанбе А. М. Якаўлеў: «Пэўна, нідзе ў нас не было столькі дагматычных забабонаў, як тут (сфера культуры, культурнай палітыкі. — **Т. Г.**). З канцылярскай бяздушнасцю рашаліся пытанні, пра што можна, а пра што нельга гаварыць, пісаць, здымаць фільмы, паказваць спектаклі. Ну і які вынік? На справе сталася, што штучныя абмежаванні, кялейныя абставіны, у якіх яны нараджаліся, прыводзілі да замацавання манапольнага становішча пэўных асоб, груповак, жанраў і шкодзілі іншым».

У рамане сутыкаюцца два розныя, па сутнасці процілеглыя погляды на мастака і мастацтва. Лазар Богша адстойвае іх незалежнасць і самастойнасць. «Хто можа дазволіць ці не дазволіць мастаку напісаць, намаляваць, зняць твор занава? — ставіць ён пытанне і адказвае: — Ягонае сумленне. Болей ніхто». Пазіцыя Кірылы Лыкавязава не ёсць пазіцыя мастака, гэта пазіцыя рамесніка і прыстасаванца. Ён упэўнены, што ўсё, і творы мастацтва ў тым ліку, павінны адпавядаць устаноўленым стандартам і нормам, працаваць на патрэбу дня. Безумоўна, такія «творцы» не здольны стварыць штосьці вартае — лыкавязаўскія фільмы, зазначае аўтар, «глядзеліся з неаслабнай увагай, але ў іх дробненькія страсці толькі казыталі нервы гледача».

У жыцці, на жаль, нярэдка бывае: за золата прымаецца тое, што блішчыць. Аўтар «Святых грэшнікаў» паказвае менавіта такую сітуацыю: спрытны рамеснік ходзіць у «таленавітых» і дыктуе свае законы іншым. Побач з Лыкавязавымі вельмі цяжка працаваць сапраўднаму таленту, ён увесь час перад выбарам: альбо тварыць пад дыктоўку, альбо творы не пабачаць свету. Непадкупны суддзя — час — расставіць, вядома, усё па сваіх месцах, аднак каб жа справа ўпіралася ў адно тое, што мы называем запозненым аднаўленнем справядлівасці! Лыкавязавы, як паказвае жыццё, досыць актыўна ўплываюць на грамадскую свядомасць, навязваючы гледачам, чытачам, слухачам уяўныя каштоўнасці, выхоўваючы нізкапробныя густы.

А. Асіпенка праводзіць у рамане адну надзвычай актуальную і важную для нашага часу думку: чалавек без каранёў, без гісторыі не можа стаць сапраўдным мастаком, ён не выявіць праўду сваёй эпохі, калі адасобіць, штучна ізалюе яе ад мінулага вопыту народа. Галоўны герой «Святых грэшнікаў» няпроста, не адразу, але прыходзіць да разумення гэтага. Невыпадкова апошні фільм Лазара Богшы пра мінулае і менавіта ім рэжысёр спадзяецца сказаць сучаснікам і нашчадкам «пра нашы думы і справы, пра наш час і пра нас».

Галоўны герой рамана мае аднолькавае імя і прозвішча са знакамітым майстрам мінулага, стваральнікам Ефрасіннеўскага крыжа. Пісьменнік нават «паз-

(Заканчэнне на стар. 6—7).

адзін такі Хмялеўскі быў? І дырэктар школы Пратасевіч, і начальнік міліцыі Лакцёнак, і старшыня райспажыўсаюза Кузьміч. «Ды ў кожнай вёсцы, у кожным калгасе. А ў вобласці! Скрозь паналезла процьма заядлых ворагаў, шкоднікаў, здраднікаў». Навучаны ў 30-я гады, ці можа Войцік паверыць у невінаватасць Сушчэні? Гэта ж факт, што ў вайну здраднікаў і ворагаў «вылезла яшчэ болей»...

Бураў, той Колька Бураў, даваенны шафёр, які аднаго разу пасадзіў у кабіну пажылую кабету, а яго, Войціка, прымусіў трэсціся ў кузаве, сказаў незадоўга да смерці: «Не чапай Сушчэню». Колька Бураў, пэўна ж, быў убаку ад змагання, бо калі б прайшоў праз гэтую школу, дык пазбавіўся б «бабскага пачуцця міласэрнасці». Ён, Войцік, ледзь не пагарэў на гэтай *міласэрнасці, на спагадзе*. Паддаўся на матчыны ўгаворы, пасобіў суседцы — жонцы Хмялеўскага — дрывамі... А праз месяц забралі і яе. Войцік пасля ледзь апраўдаўся. Увесь Войцікаў вопыт падказвае: пачуццям волі не давай. Бураў *пашкадаваў* Сушчэню, не застрэліў там, на лужку, каля лазні, павёў у лес, дзе пясочак,—і во, мёртвага яго Сушчэня нясе на сваіх плячах. Сушчэня патрэбны Войціку, бо ведае дарогу, не заблукае ў гэтым тумане, выведзе на дарогу да *лагера і—дужы* — вынесе на сабе цела Бурава, каб ён, Войцік, мог гэтым целам апраўдацца перад камандзірам Трушкевічам. «Вось пярэйдуць шашу, і Сушчэня яму ўжо не спатрэбіцца».

Асноўны закід крытыкі да новага твора В. Быкава будзе той, што ў аповесці недастаткова выпісана багацце грамадскіх дачыненняў персанажаў, пункцірна ўзноўлены рэаліі даваеннага часу, у якіх ішло фарміраванне гэтых персанажаў. І сапраўды, В. Быкаў у сваёй новай аповесці (зрэшты, як і ў іншых) унікае спакусы пісаць «панараму», паказваць «паверхі» грамадства. Але тым не менш праз падзеі, апісаныя ў аповесці, мы бачым панараму, бачым тыповасць гэтых падзей, як і тыповасць характараў. На маю думку, найбольш удаўся пісьменніку вобраз Войціка.

Войцік з напалоханых. Ягоная палітычная наіўнасць і даверлівасць проста ўражваюць нас, людзей, якія жывуць пасля XX з'езда партыі. Але Войцік, калі пакарыстацца штампам, — тыповы «маленькі чалавек», чыноўнік, сфарміраваны, вылеплены ў 30-я гады, чалавек, для якога дастаткова думкі і ўказання начальніка.

Надумаўшы забіць Сушчэню, Войцік не ведае, не хоча ведаць, што той перажыў пасля дыверсіі, пасля выхаду з лёхаў СД.

Самая пакутлівая і пакутніцкая смерць — калі чалавек памірае ў вачах аднавяскоўцаў. Вось і Грышка, прыбегшы з вуліцы, пытае: «Татка, а ты пладажнік?» Вось і жонка кажа: «Лепш бы яны цябе там павесілі». Кажа, бо цяжка зносіць людскую пагарду. «Хіба самому павесіцца?» — пытае Сушчэня ў свае Анэлі. Але і засіліцца нельга: «Скажуць людзі: было за што, скажуць, совесць загрызла, бо здраднік». Скруха, безвыходнасць... Калі ў хату прыйшоў Бураў, Сушчэня быў да гэтага гатовы. І ўсё ж было спадзяванне. На справядлівасць. На Бурава. Дзеля таго і нёс яго на сваіх плячах. Спавядаўся яму. Ды Бураў не даслухаў ягонае споведзі — памёр. Праўда, сказаў Войціку: «Не чапай Сушчэню». Было кволае спадзяванне на Войціка...

Сушчэня першы перайшоў шашу. Перанёс мёртвага Бурава. Яму трэба было дачакацца Войціка. «Толькі Сушчэня змо*рана апусціўся ля* Бурава, як ззаду на шашы раздаўся крык, — незразумелы, але, як здалося Сушчэню, страхавіта-пагрозлівы, і зараз жа дробна пратрашчала чарга...»

Не змог Войцік забіць Сушчэню. Не змог сам, без Сушчэні, *перайсці шашу*.

Перайсці шашу для Войціка азначала выжыць, жыць. Ды ён памёр да таго, як падышоў да шашы. Ён паміраў паступова. Праз сваю труслівасць, праз самазапалохванне ўспамінамі, праз зайздрасць да Сушчэневай дужасці і сілы. Ён памёр ці не ў той момант, калі вырашыў забіць Сушчэню, калі адпрэчыў людскія пачуцці. Смерць ад кулі была яго фізічнаю смерцю.

Сушчэня пераняce на той бок шашы і цела Войціка.

«...усё зайшло ў абсалютны тупік, *і толькі яшчэ недарэчна* доўжылася яго жыццё, якое цяпер нямаведама навошта яму. Што яму рабіць цяпер з ягоным жыццём, чым яму абараніць яго, і ці варта абараняць наогул?»

Ці мог Сушчэня абараніць сваё *жыццё? Ці было* выйсце з тупіка, у які яго завялі «немцы, вайна і людзі»? Усё пераплялося цесна, звязалася ў тугі вузел.

Прадчуваў, прадбачыў Сушчэня, што немцы выкрыюць яго і ягоных таварышаў, бо *трэба быць дылетантам* у пуцейскай справе, каб не зразумець: цягнік пайшоў пад адхон таму, што развінцілі рэйкі. Падзеі разгортваюцца паводле законаў трагедыі. Ну не дасць Сушчэня развінціць тыя рэйкі? Нажыве сабе непрыяцеляў сярод сваіх жа людзей, у якіх жаданне ўчыніць зло акупантам перасіліла развагу і асцярожнасць. Пойдзе пагудка, будуць позіркі скоса: у той час, як пад Сталінградам вырашаецца лёс краіны, пашкадаваў сваю шкуру... Ці ж ён не патрыёт? Даў згоду. Але ці ведаў, **якая** смерць чакае яго? Ці думаў, што сустрэне доктара Гросмайера, не проста эсдоўца, ката — вытанчанага садыста, які ўмее нацкоўваць сваіх на сваіх, прыбіраць ворагаў рэйха рукамі ворагаў рэйха?

Выпрабаваным метадам пакарыстаўся «сімпатычны немец» са службы бяспекі доктар Гросмайер. Калі Сушчэня адмовіўся супрацоўнічаць з СД, Гросмайер вырашыў ягоных таварышаў павесіць, а яго самога—выпусціць. «Ты захацеў смерці? — спытаў ён у Сушчэні. — Прапагандысцкай смерці? Каб цябе там шанавалі? У лістоўках пра цябе пісалі? Не, так не будзе! Я табе падрыхтую другую смерць, бальшавіцкі ўблюдак!»

Вайна ўскладніла адносіны *паміж людзьмі, паміж людзьмі* сваімі, знаёмымі, блізкімі. Калі б не вайна, рамантаваў бы Сушчэня пуці і палатно, гадаваў бы Грышку; калі б не вайна, вазіў бы Коля Бураў на сваёй машыне людзей і грузы; калі б не вайна, аціраўся б ля начальства, ездзіў бы ўпаўнаважаным то на сяўбу, то на жніво інструктар райза Войцік, мо стабілізавалася б ягонае становішча, мо ажаніўся б... І недзе ў сваёй воінскай часці пасылаў бы ў нарады чырвонаармейцаў іхні камандзір Трушкевіч...

Несучы на сабе мёртвага Бурава, Сушчэня кажа Войціку: «Вось вы кажаце—вайна! Што ўсё бывае... Але ж ці за год гэтай вайны людзі так хутка могуць мяняцца? Каб да вайны адзін, а ў вайну — іншы». Не, людзі не пераменіліся ў вайну, Жорсткія законы і абставіны зрабілі іх больш жорсткімі і недаверлівымі.

З тупіка, у які Сушчэню загналі немцы, вайна і людзі, з туману няпэўнасці, у які трапіў Сушчэня, было адно-адзінае выйсце. Сушчэня, ведама ж, мог аддаліць час і гадзіну свае фізічнае смерці, калі б пайшоў на здзелку з Гросмайерам. У яго быў выбар, у яго была «вольная воля — можа, тое адзінае, што засталося непадлеглым нікому». Фізічная смерць была яго **маральным** выбарам, адным-адзіным разумным выйсцем з тупіка, выйсцем, пры якім ён мог захаваць сваю незалежнасць і годнасць.

Перанёсшы Войціка, Сушчэня паклаў яго побач з Буравым. «Два партызаны, як у страі — плячо ў плячо». Пасля гэтага «раздаўся стрэл — нягучна шчоўкнуў у тумане...»

У той час, калі раздаўся гэты ціхі стрэл, партызаны з брыгады «Дзядзі Сашы» прабіраліся на шашу, каб замініраваць мост цераз раку Рэсу. Пачуўшы стрэл, яны на момант прыселі. «Так, балуецца нехта... Дурак нейкі», — сказаў адзін з іх. У іх быў свой клопат, і яны пайшлі сабе далей. А Сушчэня, Бураў і Войцік ляжалі на пагорку. Ляжалі разам—асуджаны і выканаўцы прысуду.

«Недзе ўгары, за аблокамі, ужо ўзышоў месяц, трохі падсвятліў ноч, якая, аднак, мляўка таілася ў шэрай туманнай навалачы».

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

## КАРОТКІЯ РЭЦЭНЗІІ

# Урокі ЧАЛАВЕЧНАСЦІ

*Б. Сачанка. Бабка Адарка. Апавяданні, казка. Для дашкольнага ўзросту. Мінск. «Юнацтва», 1987.*

**НЕ БЯРУСЯ** сцвярджаць, што абавязкова кожны «дарослы» пісьменнік рана ці позна возьмецца за творы для дзяцей. У адным упэўнена: той, хто думае аб заўтрашнім дні падрастаючага пакалення, каго цікавіць, якімі людзьмі вырастуць сённяшнія хлопчыкі і дзяўчынкі, не праміне такой магчымасці. Пацвярджэнне таму — Барыс Сачанка. Аўтар многіх зборнікаў апавяданняў, аповесцей, раманаў, ён неаднаразова выказваўся на пасяджэннях секцыі прозы, пленумах Саюза пісьменнікаў аб павышэнні ідэйна-мастацкага ўзроўню кніг для маленькіх. І сам, як кажуць, не застаўся ўбаку ад гэтай важнай справы. У 1985 годзе выдавецтва «Юнацтва» выпусціла зборнік яго апавяданняў «Кошык малін», ухвальна сустрэты і юнымі чытачамі, і крытыкай.

Праўда, змест той кнігі ў асноўным склалі творы, якія спецыяльна для дзяцей не пісаліся, а раней уваходзілі ў дарослыя зборнікі. Тым не менш, яны прыйшліся даспадобы маленькім — даводзілася чуць сведчанні выхавацелек дзіцячых садоў і настаўнікаў, — бо раскрывалі вабнасць жыцця, адначасова закранаючы і яго драматычныя моманты, паколькі аўтар звяртаўся і да падзей Вялікай Айчыннай вайны. Адчувалася, рана ці позна аўтар паспрабуе сябе ў галіне дзіцячай літаратуры.

Меркаванні гэтыя спраўдзіліся: выдавецтва «Юнацтва» толькі што выпусціла новую кнігу Б. Сачанкі «Бабка Адарка», якую склалі творы, спецыяльна напісаныя для дзяцей,—шэсць апавяданняў і *адна казка*. Адразу хочацца сказаць: зборнік атрымаўся пазнаваўчым, дасціпным, а галоўнае — творы нясуць у сабе значны выхаваўчы аспект.

Апавяданне «Насцечка», якім кніжка адкрываецца, можна сказаць, традыцыйнае сваім сюжэтам: з горада ў вёску да бабы і дзеда прыехала ўнучка Насцечка. У творы і расказваецца, як дзяўчынка бавіць свой вольны час. Але ж вёска ёсць вёска. Хоча таго Насцечка ці не, а штодня бачыць, як завіхаюцца па гаспадарцы дзядуля і бабуля. Дзяўчынка, гледзячы на іх, паступова і сама далучаецца да працы: «Прыехалі з горада тата і мама, бачаць: стаіць іхняя Насцечка сярод двара, сыпле курам ячмень, а тыя дзяўбуць яго ды ціхенька—ко-ко-ко! — перамаўляюцца, няйначай, радуюцца, што памочніца ў дзеда і бабы з'явілася, хваляць яе».

Нязмушана пісьменнік праводзіць думку аб важнасці працоўнага выхавання з маленства. Вось, напрыклад, апавяданне «У зімовым лесе». Паехаў хлопчык з бацькамі ў лес. Тыя працуюць, а малы Петрык зімовым лесам любуецца. Прайшоў час, холадна яму стала. Адчуў бацька гэта і прапанаваў:

— «А ты пагрэйся.

— Як пагрэцца?

— А вось на табе ручку пілы ды дровы пілуй. А я тым часам сучча буду абсякаць. Глядзіш—і сагрэешся, дый мы хутчэй управімся, дадому паедзем».

Гэтыя апавяданні ў аснове сваёй нясуць тую педагогіку, якая ўзята не з падручнікаў, няхай і самых дасканалых, а з самога жыцця. Народная педагогіка — ёй назва.

З апавядання «Ворчык» мы даведваемся, што «браты нашы меншыя» таксама здольны на сапраўдную дружбу. Сабака выратоўвае свайго гаспадара, зрабіўшы падкоп пад будынак, куды таго пасадзілі фашысты. Што тычыцца казкі «Скарга», дык яе пісьменнік пабудаваў на матэрыяле, можна сказаць, найсучаснейшым: да чаго можа прывесці скарга, калі ўзнікне яна з-за дробязнага канфлікту. Безумоўна, тут аўтара падсцерагала нямала цяжкасцей. Усё ж твор адрасуецца самым маленькім. Але Б. Сачанка з поспехам пераадолеў іх. Расказ пра Чарвяка, які балюча ўкусіў Травінку, пасля чаго тая пачала пісаць скаргі—гэта і расказ аб тым, як важна заўсёды і ва ўсім кіравацца толькі дабром, забываць аб крыўдах дробязных, не вартых увагі.

А вось апавяданне «На новым месцы» будзе цяжкаватым для ўспрымання. Думка яго цікавая, вартая ўвагі, зноў жа ўзятая з самога жыцця: «З таго часу ў мяне і асталося ў памяці: на новым месцы, на новай глебе, перш чым расці, трэба «перахварэць»... Ды не будзем забываць, што зборнік у першую чаргу адрасуецца малым дзецям, дашкольнікам.

У апавяданні, якое дало назву кніжцы, расказваецца пра бабульку — «добрую, ласкавую, працавітую». Яна якую работу ні робіць, заўсёды быццам паклоны зямельцы аддае: «І ў лесе, калі ягады пачаліся, брала іх і ўсё кланялася, шаптала, няйнакш, кожнай галінцы, кожнай ягадцы дзякавала. Вось якая ў Аленкі бабка Адарка!».

Зборнік Б. Сачанкі «Бабка Адарка» і ўспрымаецца ў першую чаргу, як... урокі бабкі Адаркі. Урокі дабра, справядлівасці, чалавечнасці, якія атрымліваюць маленькія. Ці трэба паўтараць, наколькі важныя гэтыя ўрокі?

**Іна КЛІМАНСКАЯ.**

## ЛЯ КНІЖНАЙ ПАЛІЦЫ

# ДАКУМЕНТЫ РАСКАЗВАЮЦЬ...

**Зборнік дакументаў і іншых матэрыялаў, якія ўяўляюць гістарычную каштоўнасць,—«Рэвалюцыйны рух у Беларусі (чэрвень 1907—люты 1917 гг.)» — выпусціла выдавецтва «Навука і тэхніка» да 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі. У зборніку адлюстраваны тры вельмі важныя перыяды ў гісторыі Беларусі—гады сталыпінскай рэакцыі, новага рэвалюцыйнага ўздыму і першай сусветнай вайны. З публікацый бачна, як рабочыя і сяляне вялі барацьбу з царызмам, змагаліся з памешчыкамі і буржуазіяй за сваё разняволенне, як паступова народ пад кіраўніцтвам партыі ўсведамляў неабходнасць звяржэння эксплуататарскіх класаў.**

**В. ЗАКРЭЎСКІ.**

Да аповесці «Разам па жыцці» (Маладосць, 1986, № 11) у У. Рубанава было апавяданне пра бязрукага салдата і яго нечаканую жаніцьбу. Пэўна, празаіку захацелася прасачыць лёс герояў далей, нейкім чынам параўнаць яго з лёсам маладога пакалення. Толькі, на жаль, параўнанне гэта мала чаго дадало да расказанай калісьці гісторыі.

У. Рубанаў вельмі падрабязна апісвае ўсё, што адбываецца з галоўным героем, маладым журналістам. Але чым, напрыклад, можа запомніцца вось такая сцэна і дзеля чаго яна, як мноства падобных ёй; у аповесці? «Зайшоў у аўтобус; каля самых дзвярэй было вольнае сядзенне—аднамеснае, атуленае ў белы чахол. Мне б скеміць, на што гэты чахол, не, пракампасціраваў *талон і гупнуўся на* сядзенне; палажыў на калені «дыпламат». Задумаўся, як зазвычай у дарозе, і раптам чую: «Асвабадзіце, гражданін, служэбнае месца!» (калі «гражданін», то, пэўна, ужо і «места» —**Т. Г.**). Каля мяне стаіць чырванашчокая кабета з маленькаю, як дзіцячаю, сумачкаю цераз плячо і круціць на драцяным абручыку ружовыя рулончыкі білетаў. Кандуктар!..

Купіў білет — талоны, аказваецца, на гэтым маршруце не маюць сілы — і перабраўся на задняе сядзенне, дзе якраз каля акна было яшчэ вольнае месца». Такіх хуткаплынных уражанняў ад сустрэч з выпадковымі людзьмі ў творы шмат, герой паспявае адно што адзначыць іх пра сябе, як у дадзеным выпадку.

Далёка не ўсюды ўдалося пранікнуць у свет адчуванняў і перажыванняў герояў аўтару аповесці «Перыферыя» Т. Гарэлікавай (*Полымя, 1987, № 2*). Іх учынкі і памкненні часта здаюцца нечаканымі ці малазразумелымі, як, напрыклад, «пакуты сумлення» мастака-афарміцеля Сяргея, эгаіста і самалюбца, калі ён вяртаецца з райцэнтра, дзе спадзяваўся знайсці лёгкія грошы. Аповесць перанаселена героямі і праблемамі, да таго ж кожнаму герою Т. Гарэлікава імкнецца даць усебаковую характарыстыку, давесці да развязкі ўсе канфлікты, што прыводзіць да скорагаворкі.

На фоне папярэдніх аповесцей прыкметна вылучаецца твор В. Гігевіча «Сола для віяланчэлі» (Полымя, 1987, № 1), напісаны з глыбокім адчуваннем эмацыянальнага настрою, логікі чалавечых перажыванняў. Пісьменнік паказвае, як драматычна, з якімі стратамі для сябе «прыстасоўваюцца» да рэальнага жыцця, з яго прагматызмам і рацыяналізмам, натуры чыстыя і чулыя. Абыякавасць і бяздушнасць многіх блізкіх ёй людзей прывялі да таго, што ў душы гераіні перастала гучаць мелодыя: як артыстка яна стала безаблічнай. А калі і лепшыя душэўныя якасці Ані таксама незваротна знікнуць, бо будуць нікому не патрэбны, як яе ненароджанае дзіця? Такое трывожнае пытанне не можа не ўзнікнуць пры чытанні аповесці.

Неблагое ўражанне пакідае аповесць Лявона Неўдаха «Мяжа магчымага» (Маладосць, 1987, № 3). Нячаста ў нашай так званай вытворчай прозе з'яўляюцца творы, дзе былі б рэальныя, з жыцця канфлікты. Брыгада прыняла ў небяспечным стане ўстаноўку, прыняла таму, што да канца месяца застаецца некалькі дзён, калі ж устаноўку спыніць на рамонт, калектыў не выканае план і не атрымае прэмію. Хіба нярэдкая з'ява на сучасных прадпрыемствах вось такая вымушаная «самаахвярнасць»?

Трэба сказаць, што героі Л. Неўдаха па-сапраўднаму занятыя справай, думаюць, спрачаюцца, шукаюць выйсце, а ў час аварыі, якая ўсё ж адбылася, дзейнічаюць кожны ў адпаведнасці са сваім характарам. Побач з чалавекам у творы зусім натуральна існуе, «не муляе» вока, пульт кіравання, патэнцыяметр, дыяграмная стужка і г. д. — своеасаблівае бытавое акружэнне герояў, што сведчыць пра ўменне маладога празаіка апісаць і саму вытворчасць.

●

Дык што, можа паўстаць пытанне, апошнія паўгода — нейкае выключэнне ў літаратурным працэсе. Замест дружнага пераможнага шэсця — некалькі больш-менш удалых твораў? Не. Гэта звычайныя працоўныя будні літаратуры. Святы ў ёй, як і ў жыцці, рэдкія, яны здабываюцца нястомнай, карпатлівай працай. На тое яны і святы.

## ПАЭЗІЯ

### Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ



### Тры балконы

Дом узняўся, фарсісты і гонкі,
На віду у квартала стаіць.
На адным балконе — пялёнкі,
На другім — старыя валёнкі,
На трэцім — дублёнка вісіць.

Дзе пялёнкі — бяссонныя ночы.
Маяком той агеньчык адзін,
Каб свет да загубы не збочыў
Ў акіяне быцця штармавым.

Дзе валёнкі — там кашаль, вядома,
Аблачынка чупрыны сівой.
На плячах — стома цэлага дома,
А пагляд заімглёны вайной.

Дзе дублёнка — дымок цыгарэты
Ды пярсцёнак на левай руцэ.
Там жаночых пранізлівых бедаў,
Як разводдзем ільдзін у рацэ.

На балконы зірнуць — завядзёнка —
Трэба раніцай
і ўдакладніць:
На адным — бялеюць пялёнкі,
На другім — старыя валёнкі,
На трэцім — дублёнка вісіць.

### Ненапісаны верш

«Палынная зорка
Ўзышла над маёю зямлёю...»
Прыгожа гучыць, ці не праўда?
Я думала верш напісаць.

Але, ўбунтаваўшыся, словы
Мне пеўчае горла падралі,
І з кроўю сышла мая прага
Прыгожа пісаць пра бяду.

Мне бачацца вёскі пустыя
Ды жудасны горб саркафага.
Пужае і сёння гарбун
З яго непатухшаю люлькай...

### Пільнасць

У былой, у забыўшай найменне царкве
Невялічкі архіў прытуліўся, жыве.

На званіцы цяпер аніякі не звон,
А сірэна, што кожную хвілю гатова
Выратавальнае выгукнуць слова
І світальны, крыштальны
парушыць наш сон.

Непрыкметная —
тоіцца, вострачы слых,—
Каб здалёку крылатая смерць
не ляцела.

Кожным нервам
свайго металічнага цела
Наспружынена...
Радасці доўжыцца міг.

Бо жыццё несупынна віруе, гудзе,
Бо варожага ценю ні знаку нідзе.

●

Пастукаю ў суседнюю душу,
Пачую насцярожанае: «Хто там?»
І вызірне праз шчылку адзінота,
І я нялоўка солі папрашу
Альбо запалак.
Болей — не пасмею.
Сябе ж не прапануеш у сябры,
Маўляў, вось я,
прыгледзься і бяры,
Маўляў, я не прадам, я зразумею.
Ад холаду сцінаецца нутро,
А любасць непатрачаная плача
Па тым, хто зачыніўся, як гарлачык,
І ўжо не спадзяецца на дабро.
Чужога блізка ён не падпускае,
Ў сабе самім замураваны спрэс.
А я ўсё стукаю. Я не жадаю без
Супольнасці.
Без дружбы — не жадаю!

### Дапамагайце маладым

Дапамагайце маладым,
То нашай будучыні звенні.
За імі гоняцца сумненні,
А ганарар — гады ў рады.

Прышле раёнка тры рублі —
Сусед нядобра пазірае.
А іх жа Муза выбірае!
Іх неба любіць на зямлі!

Без нас абыдуцца хіба?
І з гарадкоў, і з сельскіх нетраў
Прыходзяць тоўстыя канверты,
Дзе вершам цесна, як грыбам.

Вы перабралі іх, імчыць
Зваротны ліст да небаракі,

## ПРОЗА

### Васіль ГІГЕВІЧ



# ЯШЧЭ СНЯГІ ХАЛОДНЫЯ

АПАВЯДАННЕ

1

Кабінет у Зубава быў вялікі,—з высокімі падвойнымі дзвярыма, з цёмна-карычневымі панельнымі дошкамі ўздоўж сцен, з двума сталамі, адным—вузкім і доўгім, а другім—невялікім, трохкутным, за ім Зубаў працаваў наадзіноце і прымаў наведвальнікаў у гадзіны асабістага прыёму. Яшчэ ў кабінеце меліся малапрыкметныя і мала каму вядомыя дзверы ў асобны пакойчык, дзе былі дыван, халадзільнік, нізкі столік, крэслы і шафа з посудам.

Ягоны рабочы стол завалены папкамі, стосам спісаных папер, у якіх чужому чалавеку цяжка разабрацца. Але за гады работы з дапамогаю распісанага на тыдзень наперад перакіднога календара Зубаў налаўчыўся арыентавацца ў лабірынце зыходных і ўваходных пісем, даведак, рэкамендацый, статыстычных справаздач, планава-эканамічных паказчыкаў, нечаканых тэлефонных размоў, грозных тэлеграм—усяго, што непрыкметна забірала з ягонага жыцця дзень за днём, тыдзень за тыднем.

Штотыднёвыя планёркі Зубаў праводзіў дзелавіта і коратка; калі з планам было добра, то Зубаў быў спакойны і нават усмешлівы, але, як толькі пачынаўся завал у рабоце, Зубаў бялеў у твары, позірк ягоны станавіўся няўлоўны, унутры сябе Зубаў чуў высокі звон, ад якога станавіўся як бы іншым чалавекам, які мог ды і абавязаны адных—караць, другіх—мілаваць, і таму Зубаў тут жа, гледзячы не на людзей, а на паверхню бліскучага стала, халоднай матэматычнай логікаю пралічыўшы найлепшыя варыянты, кароткімі глухімі пытаннямі абрываў блытаныя тлумачэнні і апраўданні, без якіх людзі не могуць абысціся, ён жорстка караў адных і мілаваў другіх, падначаленыя, пранікаючыся ягоным настроем, тут жа цішэлі, адчуваючы ў кабінеце прысутнасць той вышэйшай сілы, якой нічым не запярэчыш і супраціўляцца якой няма як.

Планёрка заканчвалася, прыціхлыя падначаленыя выходзілі з кабінета і толькі за прыёмнай, у калідоры заводакіраўніцтва, пачыналі перакідвацца між сабою словамі, спачатку ціха, а потым усё грамчэй і грамчэй, з радасцю і здзіўленнем адчуваючы слодыч свабоды, а ў гэты час усё яшчэ заведзены Зубаў падыходзіў да вялікага акна і, адсунуўшы цяжкую штору, доўга глядзеў на цёмныя прадаўгаватыя заводскія карпусы з пачарнелымі шыфернымі стрэхамі, на вузкія асфальтаваныя дарожкі, абсаджаныя зялёнымі кустамі, на тонкія фанерныя шчыты з заклікамі і дыяграмамі, — адсюль, з пятага паверха заводакіраўніцтва, усё на заводзе выглядала зменшаным: і грузавыя машыны, і электракары, якія, бы дзіцячыя цацкі, снавалі паміж цэхаў, на машынным двары, перад складамі гатовай прадукцыі. Нават праз падвойныя вокны да Зубава даносілася роўнае гудзенне, і ён, адчуваючы сябе навечна звязаным з гэтым гудзеннем, адказным за гэтае гудзенне, усё яшчэ не мог супакоіцца.

Але салодкі звон улады паступова заціхаў, і тады Зубаў адчуваў стомленасць.

2

Зубаў быў класны спецыяліст, з якім лічыліся як у горадзе, так і ў міністэрстве; ён пачынаў кар'еру на гэтым жа заводзе, дзе працаваў і зараз,—спачатку рабочым, а потым, як па лесвіцы ўгору, падымаўся ад пасады да пасады: майстар, начальнік змены, планава-тэхнічны аддзел, галоўны інжынер і вось, у пяцьдзесят, як на вяршыні лесвіцы, з якой усё відно, — дырэктар.

На здароўе Зубаў не скардзіўся, ні ў маладосці, ні цяпер, як сам не раз жартаваў, гэтым яго бог не пакрыўдзіў, як не пакрыўдзіў бог мужчынскай прыгажосцю: атлетычнай рослай — сто восемдзесят пяць—пастаццю, чорнымі жарсткаватымі валасамі на буйной галаве, дзе здалёк кідаліся ў вочы шырокі з рэзка акрэсленымі палоскамі вуснаў рот, прамы прадаўгаваты нос, густыя цёмныя бровы над гэткімі ж цёмнымі вачыма.

Яшчэ з маладосці Зубаў прывык да асцярожна-ўважлівых ацэначных позіркаў як мужчын, так і жанчын, нават у незнаёмай кампаніі, дзе Зубава ніхто не ведаў, ён умеў павесці сябе так, каб да ягоных слоў і рэплікаў прыслухоўваліся.

Правілы жыцця Зубаў упітваў хутка і ўдала; яшчэ са школы ён пачаў займацца прафесійным спортам,—бегаючы чатырохсотметроўку, дайшоў да нарматыва майстра спорту, увайшоў у зборную маладзёжную рэспублікі і гады два да службы ў арміі прападаў на зборах, надта хутка сталеючы, спазнаючы слодыч і горыч спартыўнага жыцця, якое закідвала ў розныя гарады краіны. У арміі ён трапіў у спартроту, дзе было яму ўжо знаёмае звыклае жыццё. Трэнеры ставілі яго на асобныя дыстанцыі, а яшчэ ахвотней—у эстафетах, бо лёгка і ўмела «заводзіў» усю каманду на выйгрыш, ды і сам удала раскладаў сілы на ўсёй дыстанцыі, не выкладаючыся надта на першай стометроўцы. Ён так і гаварыў маладзейшым: «Галоўнае, хлопчыкі,—націснуць на фінішы». Але бывала не раз і такое, што Зубаў з першай стометроўкі, рызыкнуўшы, ішоў у адрыў і—выйграваў, так нікога да сябе і не падпускаючы.

Праз чатыры гады прафесійных заняткаў спортам, ужо адслужыўшы ў арміі, калі Зубаў пачаў адчуваць, што на апошняй стометроўцы не хапае паветра і перад кожным адказным стартам ён міжвольна пабойваецца не率 сапернікаў, а вось гэтых фінішных метраў, пасля якіх яго ледзь не ванітавала, Зубаў кінуў спорт, хоць у рэспубліканскай зборнай яго яшчэ ахвотна трымалі, і болей на бегавой дарожцы ніколі не паказваўся.

На здзіўленне зборнікаў, Зубаў паступіў не ў інстытут фізічнай культуры, як гэта рабіла большасць, а ў політэхнічны, і не на стацыянар, а на вячэрняе аддзяленне, уладкаваўшыся на машынабудаўнічым заводзе. Калі вучыўся, Зубаў выбраў для сябе галоўныя важныя прадметы, па якіх на экзаменах атрымліваў пяцёркі; ягоная аналітычная і лагічная памяць здзіўляла і выкладчыкаў і аднакурснікаў, многія раілі яму ісці ў чыстую навуку, на што Зубаў чамусьці толькі пасмейваўся.

Зубаў усё рабіў у свой час; пагуляўшы, пакуралесіўшы з дзяўчатамі ў маладосці, ён ажаніўся з адной з лепшых прыгажунь горада, на якую ў многіх гарэлі вочы; у трыццаць год у Зубава ўжо мелася дачка, двухпакаёўка ад завода і ён ужо станавіўся на заводзе тым Зубавым, якога паважалі і начальства і рабочыя. Зубаў цаніў свае словы, не спяшаўся аплёўваць былых сяброў, з якімі па той ці іншай прычыне разыходзіўся, але калі ўжо з кім счэпліваўся—літасці не даваў.

У сорак год ён стаў галоўным інжынерам завода і, уламаўшы старога дырэктара, прыняўся за рэканструкцыю завода, перахапіўшы ў сваім міністэрстве імпартнае абсталяванне, якое меркавалася аддаць іншаму заводу. Яшчэ ён купіў легкавушку, займеў паляўнічага сабаку і тульскую двухстволку.

Тады ж Зубаў па-сапраўднаму сышоўся з Віктарам Аляксеевічам, амаль аднагодкам, гэткім жа немнагаслоўным дзелавым і хвацкім работнікам Мінцяжмаша, у якога Зубаў выбіў імпартнае абсталяванне.

Як толькі адкрываўся паляўнічы сезон, Зубаў і Віктар Аляксеевіч яшчэ ў пятніцу вечарам зрываліся з гулкага горада ў восеньскую агаленасць і стыласць, дзе вачам з непрывычкі было вольна і нават слязліва ад пранізлівага халаднаватага ветру; цвёрда ступаючы кірзачамі па гулкай прамерзлай зямлі, пільна ўзіраючыся ўдалеч, дзе на краі поля цямнеў вузкай, у палец, палоскаю лес, Зубаў адпачываў, неяк нават фізічна адчуваючы, як адыходзяць, адвальваюцца клопаты пра рэканструкцыю, недаробкі, недапастаўкі, без якіх, здаецца, немагчыма абысціся... І тое, што побач ішоў Віктар Аляксеевіч, які на рабоце прыкрываў Зубава зверху, прыносіла супакоенасць; Зубаў ужо добра разбіраўся, хто ў гэтым жыцці пад кім ходзіць, хто заказвае музыку, а хто — танцуе пад яе, ён цвяроза ацэньваў свае месца ў складанай высачэзнай пірамідзе пасад і званняў і мо таму не зарываўся на лішняе, але і свайго не збіраўся выпускаць, балазе разам з Віктарам Аляксеевічам адчуваў сябе дружным тандэмам, якому яшчэ прабівацца ды прабівацца туды, наверх...

Начавалі яны ў хаце знаёмага лесніка,—і вясковая лазня, і вячэра за драўляным самаробным сталом, і доўгія, за поўнач, паўпрыглушаныя размовы пра перспектыву, пра начальства, пра тыя нябачныя складаныя сувязі ў высачэзнай пірамідзе—усё ў тыя дні было салодкім і лёгкім.

Потым яны вярталіся ў гарадскія ўтульныя кватэры, прасветленыя, загарэлыя, і ўвесь панядзелак Зубаў усё *яшчэ не мог па-сапраўднаму* ўключыцца ў работу.

Ды жыццё брала сваё, і Зубаў тут жа ўцягваўся ў штодзённыя заводскія клопаты, якія, чым далей, тым болей і грузней, навальваліся на ягоныя плечы.

Ад сарака да пяцідзесяці Зубаву здавалася, што ён і не жыў, а ўсё толькі прыцэльваўся да таго сапраўднага жыцця, якое пачнецца, калі прызначаць дырэктарам завода. Гэта была ягоная мара. У адным слове «дырэктар» Зубаву бачылася штосьці самастойнае і нікому непадуладнае. Мо таму, што Зубаў быў надта заняты сваёй мараю, работаю на заводзе, ён неяк і не прыкмеціў, як прывучыў жонку да сваіх позніх, за поўнач, вяртанняў пасля ўрачыстых лускаў, пасяджэнняў, сустрэч і праводзін дэлегацый, калі, злёгкуківаючыся, уваходзіў у кватэру і доўга са здзіўленнем глядзеў на ложак, дзе, загорнутая белай коўдраю, спакойна і саладка спала жонка. З дзесяцігадовага падлетка дачка выцягнулася ў гнуткую дзяўчыну, якая тут жа, васемнаццацігадоваю, выскачыла замуж за дваццаціпяцігадовага аспіранта. Зубаў не любіў свайго ціхага маўклівага зяця, які ўвесь час хаваў позірк, ён нават здагадваўся, што зяць, як і многія цяпер, жаніўся з-за перспектывы, якую Зубаў яму вымушаны даць, ды што ён мог зрабіць?..

З якога ясна: ён ніякі
Паэт,
і лепш дзяцей вучыць.

Калі ж сасватаеце ў друк —
Якія сілы ў іх прачнуцца!
Вам будзе доўга-доўга чуцца
Душы чужой удзячны гук.

Вы даражыць умейце ім.
Пакуль пыхлівасці кароста
Не з'ела ў вас высакародства —
Дапамагайце маладым!

●

Мы цешымся падчас самападманам
Ўсеразумення. Цешымся дарма...
Вяршыні не разгледзіш за туманам,
У возера ляснога дна няма.
Адценняў шмат у каменя і ў хвалі.
А чалавек — хіба на далані?
Яго тысячагоддзі фармавалі,
Яго усе навукі вывучалі
І ў выніку не ведаюць ані.
Што плоць, яе дары і болькі!
Хачу матэрыяльную душу
Даследаваць, дазнацца:
жыць ёй колькі?
Я ведання — не вечнасці!— прашу.
Самападман на самапаглыбленне
Змяню я — каб, насуперак мане,
Прад тайнай апусціцца на калені,
Што разгадана мной і для мяне.

## Знікненне блазна

З 3-яй дзеі «Караля Ліра» бясследна знікае блазен, і больш пра яго ў п'есе не ўпамінаецца.

Прапаў паяц. Нестала зубаскала.
Прайдохі, перасмешніка нестала.

Адпала ў ім патрэба, вось і ўсё.
Стракатае валяецца рыззё.

Даўнейшы зух ужо не мае кошту.
Таварыш блазен, кінуў нас навошта?

Хто маскі пазрывае з нашых твараў,
Святых пакажа свету і пачвараў?

Хто парагоча смела, без аглядкі?
Хто выкажа, нарэшце, праўду-матку?

Як без цябе наступныя вякі?
...Качаюцца у пыле шаргункі,

І той, каму не пагражаюць кпіны,
Нагою іх паблажліва падкіне.

## Сустрэча

Пакуль суніцы, ўкленчыўшы, збірала,
Асушаны прытоптваючы мох,
Карычневая змейка прапаўзала
Між купінаў, амаль што каля ног.

Няспешнаю бліскучай ручаінай
Цякла і не глядзела па баках.
Загусла і падоўжала хвіліна.
Я зразумела, што такое страх.

Яна ж цякла, струменіла, бруіла,
Сцвярджала незалежнасцю сваёй:
Яшчэ хапае годнасці і сілы
У матухны-прыроды маладой!

І знікла ў ганарлівай адзіноце,
Упэўненая раз і назаўжды
У тым, што гаспадыня на балоце.
...А пад нагой — ні кропелькі вады.

## Жаўна

Сядзела каля вулея жаўна
І пчолак, абцяжараных узяткам,
Немітуслівa склёўвала яна —
З вялікім апетытам, папарадку.

Жаўна, скажу вам, прагнаю была,
Бо добра згаладалася за весну.
Ды нейкая чарговая пчала
У горла не пайшла ёй, не палезла.

Задумалася птушка: як тут быць?
«Няхай жыве»,— сказала і ўздыхнула,
Яна цяжар вялізазны нібы
У гэты міг з душы сваёй спіхнула.

...О дабрата! Няма табе цаны!
Ты — госця сфер вышэйшых,
запаветных.
Ты нават і хаўрусніка жаўны
Узвысіш — да наступнага абеда.

## Маналог падлёднай рыбіны

Як душыць лядовая тоўшча, як цісне...
Зіма па-над намі — найгоршая з зім.
У нашай азёрнай прасторнай айчыне,
Бадай, кіслароду нестала зусім.

Як сёстрам маім і братам дачакацца
Вясновай праталіны, як ім дажыць
Да хваль белапенных, што мрояцца,
сняцца
У гэтай падлёднай смяротнай імжы?

Усё, чым жылі і што зараз далёка,
На што спадзяваліся ўсёй грамадой,
Гатовы аддаць мы за сіняе вока,
За чыстае вока палонкі адной!

Калі ж яно выбліснe, гляне, урэшце,
На нашы пакуты — мы рынемся ўсе
У вёдры, у кошыкі, сумкі і сеці,
І нас на вячэру дзіця панясе.

А так, здавалася Зубаву, ён і не старэў, ён проста набіраў вагу ў вачах саслужыўцаў і знаёмых па горадзе, толькі вось на паляванне ён выбіраўся ўсё радзей і радзей, то — не хапала часу, то — трэба было сустракаць патрэбных гасцей, а то — проста не хацелася.

Апошнія гады, калі Зубаў разам з Віктарам Аляксеевічам выбіраўся на паляванне, яны ўжо мала блукалі па прасветленых ціхіх палях; цяпер яны ехалі не да вясковай хаты лесніка, а

# ЛЯЖАЛІ

ў спецыяльны паляўнічы домік, што адзінока хаваўся ў далёкім глухім лесе, у той домік, дзе ўсё было гатова да іх прыезду: і ліцэнзія, і загоншчыкі з сабакамі, і нават агледжанае лежбішча звера. І вось, як на заводскім канвееры, пасля зычнай каманды, пачыналіся крыкі, брэх сабак, нечаканы трэск ламачча і — доўгачаканае бабаханне, ад якога зверу, каб і ўздумаў, нідзе не было падзецца.

Пад раніцу ад выпітага і з'едзенага ў роце Зубава ўсё перасыхала, ён прачынаўся яшчэ зцямна, прагна піў ваду, стараўся заснуць зноў і не мог, бо моцна балела галава. Штосьці падымала яго з цёплага ложка і выганяла з доміка ў яловы лес, які ўшчыльную цісնуўся да самых вокан.

Паблукаўшы з гадзіну па знаёмых сцежках, трохі прасветлены, Зубаў вяртаўся назад, у цяпло, дзе паслухмяны шафёр Косця гатаваў на газавай пліце каву, без якой апошнія гады Зубаў не абыходзіўся.

### 3

Ён вычакаў сваё, іх тандэм і сапраўды прарваўся наверх, — Зубава прызначылі дырэктарам, Віктара Аляксеевіча — намеснікам міністра. Мара збывалася ўвачавідкі, ды чамусьці супакоенасці і шчасця яна не прыносіла.

У тую восень Зубаў упершыню адчуў, што душа ягоная размываецца.

Штосьці новае, непадуладнае Зубаву ўваходзіла ў жыццё, і таму ўсё часцей пасля планёрак, забыўшыся на работу, Зубаў застываў ля акна кабінета, нерухома, як на штосьці чужое і загадкавае, глядзеў на заводскія карпусы, на невялічкія, калі глядзіш зверху, людскія постаці, што снавалі туды-сюды па тэрыторыі, на высачэзны заводскі комін, з якога ўвесь час выносіўся ў неба едкі белавата-шэры дым, — у яснае надвор'е гэты дым падымаўся ўгору, памалу размываючыся ў чыстым блакіце, а ў ветраныя дажджлівыя дні яго злізвала з вяршыні коміна і ціснула да заводскіх карпусоў, да гарадскіх будынін, і тады ў заводскім мікрараёне людзі скардзіліся на горла...

Нешта падобнае бывала ў Зубава і дагэтуль; як і цяпер, у ягоным жыцці надыходзілі імгненні, калі ўсё ні з таго ні з сяго абрыдала: і сям'я, і работа, і саслужыўцы, — непрыемнае цяжкое пачуццё агіды і стомы няпрошана паяўлялася ў Зубава, і ён тады, хаваючыся ад знаёмых і незнаёмых, не ведаў, за што, апроч чаркі, ухапіцца; тады Зубаў разумеў тыя словы, якія час ад часу чуў ад пажылых людзей: «Душа баліць...» Але, услед за гэтым душэўным болем, чамусьці так атрымлівалася, Зубава акружалі непрыемнасці, клопаты і ён, цераз сілу ламаючы душэўны боль, вымушаны быў вылузвацца з непрыемнасцей.

І якраз гэта яго лячыла.

Цяпер жа асаблівых непрыемнасцей і клопатаў у Зубава не намячалася, проста ўсё вастрэй і ясней прыходзіла адчуванне няяснасці, размытасці ўсяго на свеце, балазе ўсчынаўся вецер новых перамен: адных здымалі, новых прызначалі, адусюль на трыбуны палезлі дэмагогі і ўсе тыя смельчакі, якія нядаўна сядзелі, як мышы пад венікам, — нахрапіста і адчайна яны наводзілі парадкі ў чужых агародах, ківалі і раілі, указвалі і крытыкавалі, зверху штодня, як снег на галаву, сыпаліся ананімкі, скаргі, камісіі, праверкі... На планёрках Зубаў адчуў, як штосьці новае ўсё выразней праразаецца і ў позірках, і ў пакуль што нясмелых рэпліках падначаленых, яно, гэтае новае, глушыла пытанні і загады Зубава, рабіла Зубава не тое што нясмелым, а проста — бяссільным перад тымі няяснымі пакуль зменамі, якія павінны былі быць і якія фізічна адчуваліся Зубавым.

Зубаў не ведаў, што такое — душа, ды і, як сын свайго разумнага рацыянальнага веку, ён не верыў ні ў якую душу; яшчэ з маладосці ён верыў у свае здольнасці, у сваё здароўе, у навуку ва ўсякім разе, — спланаваўшы сваё жыццё гэтак жа, як некалі планаваў бег на чатырохсотметроўцы, цяпер, калі толькі-толькі ўдала выходзіў на фінішную жыццёвую прамую, ён сутыкнуўся з нечым незапланаваным.

Адзіная надзея была на тое, што, як і дагэтуль, новыя клопаты і новыя непрыемнасці прымусяць забыцца на гэты душэўны боль.

Віктар Аляксеевіч загрымеў на апошняй міністэрскай калегіі, па ўсім можна было здагадацца, што нехта магутна пачынаў капаць і пад Зубава, — ды цяпер нават і гэта не ўзбадзёрыла... У тую восень як ніколі дагэтуль думалася не пра будучае, а пра мінулае: пра паляванні, пра тых жанчын, з якімі сустракаўся ў маладосці і якіх лёгка пакідаў з упэўненасцю, што будучае прынясе большае шчасце...

Пасля работы Зубаў ехаў дамоў, дзе спадзяваўся знайсці супакаенне. Ён заходзіў у свой пакой, які называў кабінетам, — на сцяне шарэла шкура ваўка, забітага ім некалі, ля сцяны стаяла канапа, а ля акна — пісьмовы стол з тэлефонам. Але як толькі Зубаў заходзіў у свой кабінет, станавілася яшчэ цяжэй, хоць назад на завод вяртайся.

З паўгадзіны ён непарушна ляжаў на канапе, заплюшчыўшы вочы. Але цішыня давіла гэтак жа, як і напачатку, ён урэшце не вытрымліваў, падымаўся і выходзіў з кабінета. «Ты куды гэта?» — жонка запытальна глядзела ў вочы. «Па рабоце трэба заскочыць», — і яе пытанні, як і ягоны адказ — усё было адрэпеціраваным за гады і кожны на сённяшні вечар ведаў свае правы і абавязкі і не думаў замахвацца на правы і абавязкі іншага.

У машыне Зубаву станавілася лягчэй. Гледзячы на вячэрнія асветленыя ліхтарамі вуліцы, Зубаў адчуваў часовую палёгку, але ведаў: гэта — ненадоўга...

Прыпыніўшыся ля вулічнага тэлефона-аўтамата, Зубаў выходзіў з машыны і пачынаў званіць.

Пазней, калі пакідаў кватэру адзінокай жанчыны, яму хацелася напіцца, — да ачмурэння, каб нічога не помніць.

Але ён ужо ведаў: як і паляванне, як і знаёмствы з жанчынамі, як і выпіўкі — усё завязана...

А што далей?

Чаму, адкуль такі нясцерпны душэўны боль?

Ён не ведаў гэтага і таму інтуітыўна шукаў выйсця, — вечарамі спрабаваў гаварыць з жонкаю, ды нічога не атрымлівалася, бо за адзін вечар не мог адматаць назад дваццаць пяць сумесна пражытых год, ехаў да дачкі ў госці, у якой нарадзіўся сын, але і там адчуваў сябе ўсяго толькі — госцем, хай сабе і жаданым, ды ўсё ж — госцем...

Прыхапіўшы ружжо, Зубаў выязджаў за горад, цяпер ужо без сабакі і без Віктара Аляксеевіча. Як жа ўсё змянілася, стала занадта празрыстым і ясным, як адназначнае рашэнне матэматычнай задачы: вось — умова, а вось — вынікі...

Прыпыніўшы машыну на ўзлеску, Зубаў доўга, не вылазячы з цеплаты, глядзеў на аголены празрысты лес, на далёкія ціхія палі, над якімі дымілася нізкае цяжкое неба.

Як бы штосьці надта важнае трэба было ўспомніць ці зрабіць Зубаву.

Як жа ўсё няправільна ў ягоным жыцці атрымалася! З маладосці ён добра ведаў, што трэба ад жыцця, і таму браў ад яго тое, што давала слодыч і часовую супакоенасць; ён быў не горшы за іншых, — разлічыўшы сілы на ўсю адпушчаную яму дыстанцыю, ён пайшоў па ёй, і вось цяпер нехта нябачны ўмяшаўся ў ягоныя планы і прымушаў збочваць з дыстанцыі.

Куды, у які бок яму збочваць?

Штосьці грознае прыадкрывалася Зубаву ў такія імгненні, і ён, каб пазбавіцца гэтага грознага, цераз сілу выганяў сябе з машыны і прымушаў блукаць па халоднай пустой зямлі.

### 4

Нарэшце выпалі белыя халодныя снягі, якія пазасыпалі вясковыя дарогі — не прабіцца...

Зіма ў той год здавалася такой доўгай, якой не была і ў маленстве. Ён усё спадзяваўся, што пад вясну боль адпусціць і яму палягчэе.

У той вечар Зубаў вярнуўся дамоў сцішаны і нават супакоены, — у канцы лютага, калі ў горадзе снегу ўжо амаль і не было, ён адчуў, што болей у яго ўжо няма сіл змагацца з тым нябачным і грозным, які незапланавана ўмяшаўся ў жыццё... Жонка вярнулася з работы чамусьці раней звычайнага, і Зубаў, зірнуўшы на кухню, папрасіў заварыць свежага чаю. Здзіўлена бліснуўшы вачыма, жонка паставіла чайнік на газавую пліту. Калі ён прысеў да белага кухоннага стала, жонка, наліваючы ў кубак чай, з усмешкаю спытала: «Ну, куды ж ты сягоння лыжы навастрыў?» І тут ён зразумеў, што надзея на збавенне згасла, і чай гарачы ён дапіваў цераз сілу, стараючыся не глядзець жонцы ў вочы.

Ружжо ён вынес раней, паклаўшы яго ў машыне на задняе сядзенне, таму, зірнуўшы напаследак на распаўнелую чужую яму жанчыну, Зубаў спусціўся ўніз, дзе ля пад'езда дзевяціпавярховай стандартнай будыніны бялела машына.

Калі ехаў па горадзе, да фізічнага болю захацелася ўбачыць унука. Таму завярнуў на знаёмыя вуліцы.

Дачка, адчыняючы дзверы, здзівілася, а потым штосьці радаснае бліснула на яе твары. На руках трымала двухгадовага сына. Убачыўшы радасны бляск у вачах дачкі, Зубаў ледзьве не застагнаў. А потым, як і звычайна, прымусіў узяць сябе ў рукі: загаварыў з дачкою тым фальшывавясёлым голасам, якім прывык гаварыць з ёю яшчэ з той пары, калі яна была ў восьмым класе. Ён нават узяў унука на рукі, ды — ненадоўга: пачалася па тэлевізары вячэрняя казка, і малы тут жа пацягнуўся з ягоных рук да экрана, дзе былі парасяткі і сабачкі.

І гэта Зубава чамусьці разанула, абразіла нават, — і зноў тое грознае і няўмольнае, ад чаго імкнуўся пазбавіцца ўсю восень і ўсю зіму, навалілася, і ён адчуў сябе страшэнна вінаватым перад дачкою, таму тут жа пачаў развітвацца, баючыся глядзець у яе вялікія вочы, якія ўсё цямнелі і цямнелі...

Ён усё яшчэ на штосьці спадзяваўся. Спадзяваўся, што міліцыя спыніць. Што дарога за горадам раскісла, і ён да лесу не праскочыць.

Але за горадам яшчэ была зіма, дарога яшчэ не раскісла, проста снег пасля адлігі апаў да самай зямлі. Даўнавата сцямнела, ён ехаў з уключанымі фарамі і ўсё баяўся, каб не праскочыць знаёмы паварот.

Не праскочыў — паказалася вузкая дарожка, што вяла ад бальшака ў лес. Збавіўшы хуткасць, ён завярнуў, і тут святло фар упёрлася ў невысокі сумёт, які сярод зімы намяло перад самым лесам. Дрыготкай, нейкай чужой рукою Зубаў пераключыў перадачу, спачатку газануў, а потым скінуў газ. На хуткасці машына праскочыла сумёт і надта ўжо ціха ўкацілася на лясную дарожку, дзе снегу было не так ужо і шмат. Зубаў глыбока ўздыхнуў і толькі цяпер, як пасля цяжкой работы, выцер далонню ліпкі пот з ілба. Зразумеў, самае пакутлівае — ззаду...

# А ШТО ДАЛЕЙ?

**На спектаклях Магілёўскага абласнога драматычнага тэатра**

У ГЭТАГА КАЛЕКТЫВУ цікавая творчая біяграфія. Быў час, калі ў Магілёў спяшаліся многія дзеячы і аматары тэатра з Мінска і Масквы, каб пазнаёміцца з адметнымі спектаклямі. Рэжысёры Б. Валадарскі, У. Караткевіч, Ю. Міроненка, В. Маслюк неслі на сцэну нешта сваё, іншы раз спрэчнае, але неабходнае для пошукаў новых шляхоў. Рэпертуар тэатра ўпрыгожвалі творы сусветнай, рускай і беларускай класікі, сучасныя п'есы. Значную старонку ўпісаў тэатр у распрацоўку сцэнічнай Ленініяны.

Нельга сказаць, што калектыву заўсёды спадарожнічаў поспех. Былі творчыя ўзлёты, былі і падзенні. Усё гэта натуральны працэс у жывым тэатральным арганізме...

Які ж сёння тэатр у Магілёве?

Так атрымалася, што аб ім на працягу трох гадоў у перыядычным друку амаль нічога не напісана, яго творчае аблічча тэатральная грамадскасць рэспублікі ўяўляе досыць цьмяна. Крытыкі, тэатразнаўцы ў Магілёве бываюць, глядзяць спектаклі і... маўчаць. Вынік сумны.

У чым жа справа? Галоўная прычына, на маю думку,— у адсутнасці стабільнага мастацкага кіраўніцтва. Толькі за апошнія чатыры гады там працавалі галоўнымі А. Салаўёў, В. Маслюк, чарговымі — М. Гавядзінаў, А. Громаў, Я. Амельчанка, М. Трухан, В. Тарнаўскайтэ, запрашаліся на пастаноўкі М. Пінігін, К. Мальковіч, В. Растрыжанкоў і іншыя. Пра лёс цяперашняга галоўнага, А. Дольнікава, сказаць пэўна пакуль цяжка, але, відаць, і ён хутка пакіне тэатр... Безумоўна, такая «цякучка» рэжысёрскіх кадраў дазваляе наогул усумніцца ў наяўнасці мэтанакіраванай эстэтычнай праграмы. Кожны рэжысёр ставіць тое, што яму, як кажуць, бог на душу пакладзе.

**Ведаючы аб трывожным стане тэатра, Саюз тэатральных дзеячаў БССР накіраваў у Магілёў выязны прэзідыум. Спецыялісты пазнаёміліся з рэпертуарнай афішай тэатра, паглядзелі спектаклі бягучага рэпертуару. Сярод іх «Чыста англійская камедыя» Д. Іванова і В. Трыфанава, «Дэфіцыт» І. Шчагаліхіна, «Чараўнік Смарагдавага горада» А. Волкава, «Пастка № 46, рост другі» Ю. Шчакачыхіна, «Любоў — кніга залатая» А. Талстога, «Кот у мяшку» К. Мяшкова і яшчэ самастойная музычна-драматычная кампазіцыя пад умоўнай назвай «Тэатр і музыка»... Есць і яшчэ некалькі пастановак («Дзялок» А. Талстога, «Старая мелодыя» Я. Росцікава), але яны ідуць рэдка.**

**Афіша вельмі стракатая. Тут шмат выпадковага, другаснага, шэрага. Цікавасць гледачоў да тэатра вельмі нізкая. Толькі гераічнымі намаганнямі распаўсюджвальнікаў удаецца «ўгаварыць» калектывы прадпрыемстваў набыць білеты на асобныя пастаноўкі. Праз касу штодзень прадаецца (у сярэднім) 10—20 білетаў. Касірам горка прызнавацца ў гэтым, слухаць такія прызнанні — таксама...**

**Аднак супакоімся, зойдзем у залу і паглядзім на сцэну. У гэтым тэатры працуюць людзі, якіх я даўно ведаю, шчыра паважаю за няўрымслівасць, заўсёды рады сустрэчы з імі. Тут ёсць і мае сябры, творчы лёс якіх для мяне неабыякавы. Што ж тэатр прапануе гледачам сёння, чым збіраюцца зацікавіць іх?**

«ЧЫСТА АНГЛІЙСКАЯ КАМЕДЫЯ» — твор сацыяльна завостраны, у ім выкрываецца нікчэмнасць і крывадушнасць арыстакратычнага грамадства. Рэжысёр М. Пінігін (ён часты госць Магілёўскага тэатра) і на гэты раз засведчыў здольнасць да творчых пошукаў, эксперыменту. Музыкай (кампазітар У. Браілоўскі), чаргаваннем рытмаў, цікавымі пластычнымі мізансцэнамі ён стварае даволі яскравае камедыйнае відовішча. Раскрыццю рэжысёрскай задумы спрыяе і сцэнаграфія. Запрошаны тэатрам мастак У. Жданаў пабудаваў на сцэне павільён, у лаканічным інтэр'еры якога і адбываюцца асноўныя падзеі спектакля. Светлавыя і колеравыя эфекты выразна адцяняюць псіхалагічныя інтанацыі дзеяння. (Праўда, нельга сказаць, што мастак не пашкадаваў фантазіі і вынаходлівасці,— у такіх дэкарацыях можна ставіць не толькі «англійскія камеды»...)

Гаворачы пра акцёрскія работы спектакля, трэба адзначыць, што выканаўцы працуюць захоплена, нават апантана. У выніку — ёсць запамінальныя характары, хвалюючыя эпізоды, распрацаваныя сцэны. Амаль кожны вобраз мае сваю біяграфію, насычаецца падтэкстам. У гэтым сэнсе цікавыя Чарльз (А. Палкін) і яго жонка Нэнсі (С. Кліменка). Гэтыя людзі — пестуны лёсу. Яны, кожны па-свойму, цешацца жыццём, імкнуцца ўзяць ад яго самае лепшае. Артысты добра адчуваюць жанр, паслядоўна раскрываюць звышзадачы сваіх персанажаў.

Камедыйнасцю прасякнуты і характары Патрыцыі (Х. Хазіева), Вінчэнца (А. Кляшторны), Рэчал (З. Бурцава), Пятніцы (С. Баброўская). На жаль, крыху адназначнымі выглядаюць у спектаклі вобразы Алівера (А. Ташкіноў) і Марцымера (В. Галкін). Нельга пагадзіцца з пастаноўшчыкамі наконт прыдуманага фіналу з Рабінзонам (Л. Кучко) і яго казой. У матэрыяле п'есы такі фінал адсутнічае. Аднак гэта дробязі. Галоўнае тое, што стваральнікі спектакля здолелі ў камедыйным плане даследаваць вытокі зла і паказаць яго зусім не смешныя вынікі.

ШМАТ залежыць у тэатры ад рэжысёра, тым больш, калі ён здольны захапіць працай артыстаў, умее знайсці такія мастацка-выразныя сродкі, каб узрушыць гледача, прымусіць яго хвалявацьца, суперажываць разам са сцэнічнымі героямі. А калі не ўмее? Калі яго фантазія бедная? Тады глядач пакідае тэатр незадаволеным, і цяжка сказаць, калі яшчэ збярэцца наведацца сюды...

З такімі думкамі я глядзеў спектакль «Дэфіцыт». Гэтую пастаноўку, заўважу, ужо бачыў летась, калі тэатр здаваў яе дзяржаўнай камісіі. Тады стваральнікам спектакля (рэжысёр І. Перапёлкін, мастак М. Волахаў, музычнае афармленне У. Браілоўскага) былі выказаны заўвагі, з якімі пастаноўшчык нібыта пагадзіўся. Яны тычыліся павярхоўнага прачытання матэрыялу, прасталінейнага ўвасаблення асобных вобразаў, адсутнасці стылістычнага і сэнсавага адзінства ў мастацка-дэкаратыўным афармленні... Мінула некалькі месяцаў, але, як гэта звычайна бывае, тэатр не звярнуў увагу на выпраўленне недахопаў, якія з цягам часу яшчэ больш паглыбіліся.

Аснова спектакля — крытычны аналіз адмоўных з'яў рэчаіснасці. Але ж столькі тут усяго нагрувашчана: узаемаадносіны бацькоў і дзяцей, хабарніцтва і службовы абавязак, прыстасаванства і дэмагогія... Вядома, усе гэтыя праблемы ўзняць у адным спектаклі немагчыма. Таму яго стваральнікам хапіла запалу толькі на тое, каб гэтыя грамадскія заганы пералічыць і схематычна паказаць.

Схематызм інсцэніроўкі, павярхоўнасць рэжысёрскай задумы, фармальнасць музычнага і сцэнаграфічнага афармлення адмоўна паўплывалі на ігру акцёраў. Шчыра кажучы, я не ўбачыў ніводнага завершанага вобраза, не адчуў пэўнай трактоўкі таго ці іншага персанажа.

**Галоўнымі фігурамі спектакля з'яўляюцца урач Малышаў (Р. Белацаркоўскі) і яго сям'я — жонка Марына (Л. Гурына), дачка Кацярына (А. Дудзіч). Праз іх узаемаадносіны, погляды, жыццёвыя пазіцыі павінен раскрывацца драматычны канфлікт. Павінен! На самай жа справе ён адразу дэманструецца — адкрыта, «у лоб». Сцэнічныя персанажы ўвесь час крычаць, насуперак логіцы носяцца па пляцоўцы, не слухаюць і не чуюць адзін аднаго. Можа, так рэжысёр хацеў падкрэсліць нездаровы свет гэтай сям'і? Але ж ёсць пэўныя азы, прынцыпы сцэнічнага партнёрства, якія вымагаюць павагі да сябе. Вобраз Малышава трактуецца павярхоўна, без належнай нюансіроўкі. Гледача прымушаюць паверыць, што Малышаў разумны, таленавіты, добры, прынцыповы, прагрэсіўны і г. д. Добра было б усё гэта яшчэ і ўбачыць, адчуць.**

«Дэфіцыт» выглядае наіўнай і спрошчанай ілюстрацыяй да складаных праблем рэчаіснасці. Перажыванні герояў перадаюцца ўсяго толькі «голасам», большасць акцёраў абыякавыя да мізансцэн, не адчуваюць часу і месца дзеяння, у многіх невыразная пластыка. Сумнае сцэнічнае відовішча! Амаль на кожную ролю ў спектаклі прызначана па два выканаўцы, аднак рэжысёрская партытура спектакля такая, што істотных змен у яго танальнасць акцёр ўнесці не можа.

Трупа магіляўчан па-ранейшаму мае досыць яркія індывідуальнасці. Шкада, што з імі не супрацоўнічаюць рэжысёры, якія валодаюць сакрэтамі тэатральнай педагогікі, а сваімі пастаноўкамі імкнуцца як мага глыбей раскрыць акцёрскі талент.

...Глядзім спектакль пра сучасную моладзь з абстрактнай назвай «Пастка № 46, рост другі». Зноў чытаем рэжысёрскі почырк І. Перапёлкіна. Скажу шчыра, хоць тэатр і цешыць сябе ілюзіяй, што атрымаўся добры сцэнічны твор, які прываблівае гледачоў, на самай жа справе — спектакль пасрэдны, ды і праблемы ў ім закранаюцца 60-х — пачатку 70-х гадоў, калі моладзь была хворая на «джынсавую ліхаманку». Кідаецца ў вочы спрошчанасць і павярхоўнасць рэжысёрскага погляду на жыццё сучаснай моладзі. Сёння яна жыве больш складана. Ствараецца ўражанне, што тэатр не заўважае сапраўдных праблем тых, хто запаўняе глядзельную залу.

Характары многіх герояў як след не распрацаваны, таму іх паводзіны выглядаюць неабгрунтаванымі. Чаму, скажам, Міша (В. Гудзіновіч) гэтакі агрэсіўны? Чаму ён на ўсіх кідаецца? Чым выключны? Усё даводзіцца дадумваць... Артыст жа паказвае нам фатаватага лайдака, які ва ўсіх эпізодах (з маці, дзяўчынай, сябрам і іншымі) крычыць, лаецца, ні з кім і ні з чым не згаджаецца. Такая спрошчанасць трактоўкі галоўнай дзеючай асобы збядняе і да таго бедныя драматургічныя матывы ролі.

Без паўтонаў трактуюцца вобразы Андрэя (А. П'янзін), Упыра (А. Грунда), Інтэра (Ю. Рудакоў), Алены (А. Дудзіч). Усе яны выглядаюць зададзенымі схемамі. На жаласлівай, іншы раз сентыментальнай ноце вырашаецца Б. Вальвачовым характар Лёшкі. Не абцяжарваюць сябе творчымі пошукамі і больш вопытныя выканаўцы — А. Палкін (бацька Андрэя) і З. Бурцава (маці Мішы). Але ж абвінаваўчы пафас п'есы і спектакля скіраваны менавіта на іх, на бацькоў. Цяжка пагадзіцца і з вобразам журналіста, якога бяскولерна паказаў К. Печнікаў. Застаўся недзе па-за межамі спектакля і характар Мікіты Шыманава (А. Ташкіноў). А менавіта праз яго аўтар хацеў паказаць сваё юнацтва.

Уражанне такое, нібыта стваральнікі спектакля вельмі спяшаліся паказаць плён сваёй творчасці гледачам. Чым жа яшчэ вытлумачыць нізкую культуру пастаноўкі? Якія функцыі выконваў запрошаны педагог па сцэнічным руху Ф. Іваноў, калі бойкі і сутычкі юнакоў выглядаюць надзвычай нязграбна? Паспешлівасць прыкметна ў мастацкім афармленні (М. Волахаў), у музыцы (Ю. Пралкін). Усё тут разлічана на нізкі ўзровень гледача, маўляў, «сойдет». І гэта ў прафесійным тэатры!

**Досыць змрочны настрой крыху прасвятлілі дзве казкі — «Чараўнік Смарагдавага горада» (рэжысёр В. Растрыжанкоў) і «Кот у мяшку» (рэжысёр К. Мальковіч). Разам з маленькімі гледачамі таксама пабылі мы «У гасцях у бабы Насці» — своеасаблівым пралогу, які тэатр паказвае перад казачнымі прадстаўленнямі. Пастаноўшчыкі парадавалі ўвогуле цікавымі і шматграннымі работамі. У іх найбольш пераканаўча выявіўся сінтэз рэжысуры, сцэнаграфіі, музыкі і майстэрства акцёраў, — і ў выніку атрымаліся хвалюючыя і разумныя спектаклі. Тут шмат музыкі, імклівых рытмаў, выразнай пластыкі. Казачныя, іншым разам нерэчныя сітуацыі, жывы гумар, аптымізм цікава абыгрываюцца і перадаюцца акцёрам. Адчуваецца, што выканаўцы з задавальненнем працуюць на сцэне, а гледачы захоплена сочаць за жыццём казачных персанажаў.**

НА МАГІЛЁЎСКАЙ АФІШЫ часта з'яўляецца камедыя. Спрабуе сябе ў гэтым няпростым жанры і галоўны рэжысёр А. Дольнікаў. Калі тэатр абвясціў пастаноўку камедыі «Любоў — кніга залатая», падумалася, што выбар грунтуецца на глыбокай сцэнічнай трактоўцы малавядомага твора А. Талстога.

**Шчыра кажучы, я пачаў сумнявацца ў імкненні тэатра мабілізаваць усе творчыя сілы, прачытаўшы ў праграмцы спектакля вытрымкі з даследавання М. Зарына «Забавы і пацехі рускіх цароў за 300 гадоў»: «Чым вышэйшая і больш значная якая-небудзь гістарычная асоба, тым больш абуджаецца да яе цікавасць. Хочацца ведаць аб ёй усё: як яна жыла, у якіх абставінах, што любіла, чаго не любіла, якія мела звычкі. Нам дарагія гэтыя дробязі і, пазнаючы жыццё цара або царыцы ў іх штодзённым жыцці, мы яшчэ глыбей спасцігаем іх характары і глыбей успрымаюцца іх вобразы ў памяці народнай. ...Так, цар Аляксей Міхайлавіч любіў сакалінае паляванне, Пётр Вялікі — шахматную гульню, Елізавета Пятроўна — тэатр, а Кацярына Вялікая — маскарады». Узнікла пытанне, пра што ж будзе спектакль? І хіба нам такая «дарагая» памяць пра цароў і царыц? Вырваныя з кантэксту цікавага даследавання М. Зарына цытаты зусім не стасуюцца з п'есай, дзе злосна высмейваюцца быт і норавы самадзержцаў, паказаны прымітывізм і амаральнасць іх жыцця. Дзіўна, што і казаць....**

Рэжысёр не канкрэтызуе жанр пастаноўкі, а таму ў спектаклі перамешаны па-рознаму сыграныя эпізоды з «непаразуменнямі». Жанравая неакрэсленасць не спрыяе выяўленню асноўнага зместу твора, бо развіццё драматычнага канфлікту, і ўсе калізіі, і, нарэшце, характары герояў у першай частцы спектакля падпарадкаваны вадэвілю і сатырычнай камедыі, а ў другой — псіхалагічнай драме і меладраме. Пастановачная эклектычнасць выклікала і стылявы разнабой ў музычным і сцэнаграфічным рашэннях.

З першых хвілін дзеяння ў доме Серпухоўскіх узнікае пярэпалах: княгінька атрымала ліст ад імператрыцы, якая паведамляе, што ў хуткім часе наведаецца з візітам. Пачынаецца падрыхтоўка да сустрэчы высокай госці. У роспачы князь, вялікімі клопатамі апанавана княгіня. Па сцэне носіцца слуга Рэшата і ўсе дваровыя. Слугі прыводзяць у парадак маёнтак, прыгонныя дзяўчаты рэпецiруюць карагоды. Усе ўзрушаны, разгублены, дзейнічаюць на мяжы тэатральных карыкатур. Гледачы з захапленнем успрымаюць такія ўмовы гульні, з задавальненнем смяюцца. Перад намі камедыя палажэнняў, з'едлівая сатыра.

Князь Серпухоўскі ў выкананні В. Гусева паўстае фігурай бездапаможнай. Артыст малюе вобраз яркімі фарбамі, шчодра карыстаецца сатырычнымі прыёмамі. Уся акцёрская тэхніка і пластыка накіраваны на паказ абмежаванасці гэтага князька. Серпухоўскі — Гусеў ва ўсіх сцэнах дынамічны, у яго ўчынках бачыцца жаданне быць гэткім зухам, строгім гаспадаром. Аднак страх перад імператрыцай робіць яго прымітыўным тыпам. Праводзячы свайго героя па складаных лабірынтах сатырычнай камедыі, акцёр прадэманстраваў высокае майстэрства знешняга і ўнутранага пераўвасаблення.

У камедыйна-сатырычным ключы трактуе вобраз Рэшата і артыст А. Рудакоў. Ён паслухмяны слуга сваіх гаспадароў, часам хітраваты, а ў асноўным — недалёкі.

Вобраз княгіні Серпухоўскай з'яўляецца своеасаблівым рухавіком канфліктных сітуацый. Спачатку актрыса С. Баброўская, на маю думку, знайшла цікавы ход у паказе характару гераіні. Маладая княгіня не любіць старога мужа, і таму шукае для сябе розныя забавы, каб неяк аздобіць свой правінцыйны быт. Актрыса скупымі штрыхамі намячае грані характару Серпухоўскай: абаяльная, нават сарамлівая, і — праставатая, хоць і ўладарная, імкнецца выказаць сваю нібыта адукаванасць. На жаль, гэтыя яркія фарбы акцёрскай палітры хутка згаслі. Са з'яўленнем Завалішына (В. Папкоў) актрыса пераключаецца з сатырычнага жанру ў меладраму. А з развіццём дзеяння, калі з'яўляецца Кацярына II (Н. Абрамава), у вобразе дамінуюць драматычныя ноты. Безумоўна, тут бачыцца рэжысёрская недакладнасць у разуменні гэтага вобраза, таму што актрыса змагла б паслядоўна раскрыць сатырычны характар сваёй ролі.

Грунтоўнага пераасэнсавання, думаецца, вымагае вобраз Кацярыны II. Ні рэжысёр, ні актрыса Н. Абрамава не знайшлі тых неабходных мастацка-выразных сродкаў, каб у камедыйна-сатырычным гучанні раскрыць характар імператрыцы. Перад намі паўстае грозная натура, якая сваёй уладай разбурае ідылію жыцця Серпухоўскіх. Нават у лірычных дуэтах з Завалішыным у Кацярыны — Абрамавай адсутнічае жаночая абаяльнасць. Такая імператрыца выглядае іншародным целам у тканіне спектакля, яна ўсё-такі з «іншай оперы». Узамен адназначнасці і прасталінейнасці павінен з'явіцца жывы характар, вядома, са сваімі адметнымі жанравымі і стылявымі рысамі.

**У гэтай пастаноўцы дзейнічаюць і прадстаўнікі простага народа, прыгонныя людзі — Мікіта (А. Грунда), Фёдар (Л. Кучко), Саня (Т. Зелікава), Сцеша (І. Селязнёва), Дуняша (В. Куржалава), Наташа (К. Хазіева). Гледзячы на іх сцэнічныя паводзіны, здзіўляешся, як прымітыўна ставіцца тэатр да абагульняючага вобраза народа. Тут ужо стваральнікі спектакля не шкадуюць сатырычных фарбаў! На жаль, даводзіц-**

**ца часта (нават у акадэмічных тэатрах) бачыць на сцэне народ дзікім і тупым. Няўжо светапогляд рэжысёра такі вузкі, што інакш ён і не здатны ўвасобіць простага чалавека? У дадзеным выпадку хачу параіць А. Дольнікаву глыбей прачытаць п'есу А. Талстога, — у аўтара дзяўчаты і разумныя, і абаяльныя, і здольныя. Іншая справа, што танцы і карагоды, якім іх вучыць княгіня, не атрымліваюцца. Тут для іх чужая атмасфера, чужыя норавы, чужыя песні і танцы...**

**На жаль, спектакль, які ў параўнанні з іншымі «прахаднымі» пастаноўкамі мог бы стаць добрым падарункам для гледачоў, сёння далёкі ад дасканаласці. Па сутнасці, ён у эмбрыянальным стане.**

РАЗВІТВАЮЧЫСЯ з Магілёўскім тэатрам, удзельнікі выязнога прэзідыума СТД БССР разам з прадстаўнікамі партыйных органаў горада і вобласці, а таксама кіраўнікамі абласнога ўпраўлення культуры выказалі свае ўражанні ад сённяшняга ідэйна-мастацкага ўзроўню творчага калектыву. Усе аднадушна сцвярджалі, што ён багаты на цікавыя акцёрскія індывідуальнасці розных узростаў. Такой трупе пад сілу значныя творчыя дасягненні, адкрыцці. Аднак іх няма, творчага руху не назіраецца. У фарміраванні рэпертуару прыкметная спрошчанасць, друтаснасць. Па ўбачаных спектаклях цяжка вызначыць ідэйна-эстэтычны напрамак, праграму на будучыню. Крытэрый творчасці рэжысёраў, сцэнографаў надзвычай нізкі. Ды і закулісныя страсці тут не зусім здаровыя, асабліва калі яны падаграюцца кіраўніцтвам тэатра або ад імя «асобных творчых работнікаў». Дзіўна паводзіць сябе ў гэтай сітуацыі дырэктар А. Барысава (яе на сустрэчы не было — знаходзілася на вучобе ў Маскве). Аднак мне даводзілася гутарыць з ёю раней, і склалася такое ўражанне, што дырэктар ва ўсіх тэатральных бедах вінаваціць галоўнага рэжысёра... Сапраўды, А. Дольнікаў за два з палавінай гады працы ў Магілёве не змог да канца справіцца са сваімі абавязкамі. Ён шукаў, памыляўся, выпрацоўваў манеру паводзін на новай для сябе пасадзе, але... У трупе кажуць, што занадта мяккі ў яго характар, а гэта многіх не задавальняе. Безумоўна, такіх галоўных рэжысёраў, якія б змаглі цвёрдай рукой надзейна весці калектыў да творчых здабыткаў, сёння лёгка на пальцах пералічыць. Іх трэба выхоўваць — цярпліва, даверліва, шчодра. У Магілёве гэтага зрабіць не змаглі.

**Што ж далей? У калектыве гавораць, што дырэктар хоча ўзяць на сябе паўнамоцтвы мастацкага кіраўніка, а побач каб была рэжысёрская калегія. Само па сабе гэта, можа, і нядрэнна, ва ўсякім разе — выйсце. Але з якіх рэжысёраў будзе складацца тая калегія? Сёння ж у тэатры ніводнага штатнага чарговага рэжысёра — усе працуюць на дагаворах. Ды і творчы ўзровень некаторых «дагаворных» вельмі нізкі. Што ж будзе з тэатрам? Паўтарэнне былога? Пытанне не простае!**

**І апошняе. У час гутаркі з калектывам некаторыя артысты скардзіліся на крытыкаў. Што, маўляў, адны крытыкі прыязджаюць і захвальваюць спектакль, а другія — занадта ганяць. На жаль, такое бывае. Аднак дзеячы тэатра павінны разумець, што ад таго ці іншага крытыка ўзровень іх творчасці не залежыць. Можна «выпісаць» у Магілёў крытыка з Масквы, але ці стануць лепшымі ад гэтага спектаклі?**

Тэатр — дзяржаўная мастацкая ўстанова. Для горада ён з'яўляецца важным сродкам ідэйна-эстэтычнага выхавання людзей, асабліва моладзі. Магілёўскаму тэатру больш няма куды зніжаць крытэрыі свайго мастацтва. Трэба, адкінуўшы ўбок амбіцыю, ганарлівасць і нятворчыя спрэчкі, грунтоўна падумаць, як жыць заўтра. Апошняе слова — за калектывам.

**Юрый СОХАР.**

## ВІНШУЕМ

# *Пятру БІТЭЛЮ ~ 75*



6 чэрвеня спаўняецца 75 год паэту і перакладчыку Пятру Бітэлю. З гэтай нагоды праўленне СП БССР накіравала юбіляру прывітальны адрас, у якім гаворыцца:

**«Дарагі Пётр Іванавіч!**

**Віншуем Вас, вядомага перакладчыка мастацкай літаратуры, паэта, з 75-годдзем з дня нараджэння.**

**Выступаць у друку Вы пачалі яшчэ ў 1939 годзе. За гэтыя амаль пяцьдзесят год Вы многа зрабілі як перакладчык твораў рускай, польскай, нямецкай літаратур. Асабліва вядомы Вашы заслугі ў азнаямленні беларускага чытача з творчасцю выдатнага польскага паэта Адама Міцкевіча. На Вашым творчым рахунку таксама пераклады твораў Ю. Славацкага, М. Канапніцкай, К. Тэтмаера, польскамоўных твораў В. Дуніна-Марцінкевіча, дзе Вы сцвердзілі сябе як кваліфікаваны, дасведчаны перакладчык.**

**Вы плённа працуеце і як паэт. Мы ведаем і цэнім Вас як аўтара паэмы «Замкі і людзі», кнігі «Паэмы». Вы добра ведаеце гісторыю, валодаеце словам, пераканаўча перадаяце каларыт эпохі. Тое, што Вы зрабілі і робіце ў беларускай літаратуры, заслугоўвае самай шчырай увагі.**

**Жадаем Вам, дарагі Пётр Іванавіч, добрага здароўя, творчых поспехаў на літаратурнай ніве».**

Супрацоўнікі «ЛіМа» далучаюцца да гэтага віншавання.

# *Барысу БЕЛЯЖЭНКУ ~ 50*



Сёння спаўняецца 50 год паэту Барысу Беляжэнку. Праўленне СП БССР накіравала юбіляру прывітальны адрас, у якім, у прыватнасці, гаворыцца:

**«Дарагі Барыс Паўлавіч!**

**Прыміце наша шчырае вітанне ў сувязі з Вашым 50-годдзем!**

**Адслужыўшы на Балтыйскім ваенна-марскім флоце, Вы настаўнічалі, працавалі дырэктарам Дома піянераў і школьнікаў, супрацоўнікам бешанковіцкай раённай газеты «Зара», сакратаром партыйнай арганізацыі калгаса «Герой працы», інструктарам райкома партыі, дырэктарам Пуськаўскай васьмігадовай школы.**

**Пасля заканчэння вышэйшай партыйнай школы працавалі інструктарам, лектарам, загадчыкам сектара друку, тэлебачання і радыё Віцебскага абкома КПБ.**

**З першымі вершамі выступілі ў 1951 годзе. Выдалі зборнікі «Крыгалом» і «Жытнёвае поле». У часопісе «Маладосць» апублікавалі паэму «Свята пумы».**

**Горача вітаючы Вас з юбілеем, жадаем Вам, дарагі Барыс Паўлавіч, добрага здароўя, новых поспехаў у працы і ў паэзіі».**

Супрацоўнікі «ЛіМа» далучаюцца да гэтага віншавання.

## МУЗЫКА

# ФЛЕЙТА, ГАБОЙ, САКСАФОН...

### Пра поспехі беларускіх духавікоў і нявырашаныя праблемы

ФЛЕЙТА, труба, побач з ударнымі,— найбольш старажытныя інструменты, з якімі звязана зараджэнне самой музыкі. Відаць, ёсць нейкія глыбінныя прычыны на тое, што сёння ў свеце прыкметна ўзрастае цікавасць да выканаўства на духавых інструментах. Асаблівую ролю ў падрыхтоўцы высокапрафесійных салістаў, аркестравых музыкантаў, педагогаў-духавікоў адыгрываюць спаборніцтвы, конкурсы выканаўцаў. У нашай краіне такія конкурсы праводзяцца з 1935 года, прычым з 79-га — рэгулярна праз чатыры гады, асобна па драўляных, асобна па медных духавых і ўдарных інструментах.

Сёлетні Усесаюзны конкурс выканаўцаў на драўляных духавых інструментах (флейта, габой, кларнет, фагот, саксафон) адбыўся ў горадзе Хмяльніцкім. У складзе журы конкурсу былі відныя савецкія спецыялісты, у тым ліку загадчык кафедры духавых інструментаў Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі Р. Цярохін, загадчык кафедры духавых інструментаў Маскоўскага педагагічнага інстытута імя Гнесіных прафесар І. Пушачнікаў і іншыя. Спаборнічалі 114 маладых музыкантаў, з іх 34 флейтысты, 18 габаістаў, 30 кларнетыстаў, 21 фагатыст і 11 саксафаністаў.

Беларусь прадстаўлялі пяць выканаўцаў, трое выйшлі пераможцамі. Гэта Юрый Лікін (габой), студэнт 1 курса Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, клас в. а. прафесара Б. Нічкова. Юра падзяліў І прэмію з Уладзімірам Скляранкам, асістэнтам-стажорам Маскоўскага педагагічнага інстытута імя Гнесіных. Уладзімір Навуменка (саксафон), выкладчык БДК і Мінскага музычнага вучылішча. Ён падзяліў III прэмію з Русланам Бабаджанавым (Алма-Ата). Ларыса Ласоцкая (флейта), першакурсніца БДК, клас выкладчыка Н. Аўраменка. Ларыса стала дыпламантам конкурсу. За паспяховы ўдзел у II туры конкурсу Ганаровай граматай адзначаны Сяргей Папоў (фагот), студэнт III курса БДК, клас дацэнта У. Будкевіча, а таксама канцэртмайстры кафедры духавых інструментаў БДК Людміла Бірукова і Алена Вавілава. Асабліва́га поспеху дасягнуў Юрый Лікін. «Музыкант-канцэртант», «выдатная з'ява ў музычным жыцці», «Паганіні габоя»,— так характарызавалі ягоныя выступленні члены журы.

Прыгадайма, што духавікі Беларусі не ўпершыню вызначаюцца на ўсесаюзных конкурсах. У розны час першых прэмій былі ўдастоены Святлана Сергяенка (габой) і Генадзь Забара (кларнет), сталі лаўрэатамі Аляксандр Акімаў (валторна) і Пётр Дударэнка (туба), дыпламантамі — Ларыян Каліноўскі (габой) і Андрэй Марозаў (туба). І вось сёлета — адразу тры пераможцы.

Такі поспех беларускіх музыкантаў не стаў для нас нечаканым. Нягледзячы на вядомыя капрызы конкурснай фартуны, прыкладна гэткія вынікі мы адкрыта прагназіравалі, не баючыся падацца нясціплымі. Яны сталі магчымымі ў выніку шматгадовай мэтанакіраванай работы спецыялістаў кафедры духавых інструментаў БДК, многіх адпаведных аддзяленняў музычных навучальных устаноў рэспублікі. Работа была скіраваная на пошукі здольнай моладзі, зацікаўленае стаўленне да яе прафесійнага лёсу, на своечасовую метадычную і практычную дапамогу ў інтэнсіўным творчым развіцці. Пошукам такой моладзі значна спрыяе сістэма конкурсаў, наладжаная Міністэрствам культуры БССР. Варта адзначыць таксама дзейнасць былога загадчыка кафедры духавых інструментаў, цяпер прарэктара па вучэбнай рабоце Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі, заслужанага артыста БССР в. а. прафесара Б. Нічкова. Нельга сказаць, што сваю работу ў гэтым накірунку як загадчык кафедры ён пачаў з нуля. Барыс Уладзіміравіч узначаліў кафедру, якая падрыхтавала трох лаўрэатаў усесаюзных конкурсаў. Разам з тым, яго імкненне дамагчыся стабільнага прызнання беларускіх духавікоў на ўсесаюзнай і міжнароднай арэнах не толькі прынесла канкрэтныя вынікі ў яго асабістай педагагічнай працы, а і стварыла атмасферу творчага спаборніцтва на кафедры. Дзве першыя прэміі (С. Сергяенка і Ю. Лікін) і дыплом (Л. Каліноўскі) на ўсесаюзных конкурсах, паспяховыя выступленні С. Сергяенка на Міжнародным конкурсе «Пражская вясна» і Ю. Лікіна на Міжнародным конкурсе «Канцэрціна Прага», дзе яны сталі дыпламантамі, не кажучы ўжо аб перамогах на міжрэспубліканскіх і рэспубліканскіх конкурсах,— гэта асабісты ўклад Б. Нічкова ў развіццё беларускай школы ігры на габоі.

Радуючыся дасягненням, нельга абмінуць тыя праблемы, якія таксама выявіў мінулы конкурс. Драўляныя духавыя інструменты ўключаюць у сабе па сутнасці пяць спецыяльнасцей. Не ўсе з іх былі паспяхова прадстаўлены беларускімі выканаўцамі на апошніх Міжрэспубліканскім і Усесаюзным конкурсах. Асабліва слабымі аказаліся нашы кларнетысты, нягледзячы на тое, што класы кларнета ў музычных школах і вучылішчах рэспублікі і ў кансерваторыі найбольш шматлікія. Па гэтай спецыяльнасці ў апошнія гады мы яўна здалі свае пазіцыі, і становішча трэба выпраўляць.

Шмат нявырашаных пытанняў у арганізацыі складанага працэсу падрыхтоўкі да конкурсаў. На практыцы падрыхтоўка да конкурсаў пераважна — клопат педагогаў-энтузіястаў.

Праблемы, звязаныя з забеспячэннем канкурсантаў добрым інструментарыем, тэхнічнымі сродкамі навучання, не новыя, аднак перамен пакуль мы не адчулі. Мала таго: адзіная ў рэспубліцы вышэйшая навучальная ўстанова знаходзіцца пад пагрозай закрыцця класа ўдарных інструментаў! Бо, зноў жа, адзіны ксілафон, які ёсць у ім, ў поўным заняпадзе, той жа «лёс» наканаваны камплекту літаўраў, а марымбы мы не маем наогул. Нядаўна мне давялося пабываць на выстаўцы духавых і ўдарных інструментаў японскай фірмы «Ямаха». Усе неабходныя нам інструменты на гэтай выстаўцы былі, іх можна было б набыць, ды толькі... Цяжка паверыць у тое, што адзіную ў рэспубліцы кансерваторыю не прадастаўляецца магчымым забяспечыць дабротным інструментарыем, няхай нават на гэта патрабуюцца валютныя асігнаванні. Навучальныя ўстановы—у першую чаргу, а не прафесійныя калектывы, пры ўсім іх аўтарытэце, — неабходна забяспечыць інструментамі! Спецыялістаў жа трэба на нечым вучыць. Ці ж гэта не зразумелая для ўсіх ісціна?

У студзені — сакавіку 1988 года ў Таліне адбудзецца Міжрэспубліканскі конкурс выканаўцаў на медных духавых і ўдарных інструментах, на канец 1988 года прызначана правядзенне Усесаюзнага конкурсу па гэтых спецыяльнасцях у Мінску. Падрыхтоўка да конкурсаў пачалася.

**Мікалай ВОЛКАЎ,**
**загадчык кафедры духавых інструментаў БДК.**

**АД РЭДАКЦЫІ. На публікацыю М. Волкава, безумоўна, будзе звернута ўвага ў Міністэрстве культуры БССР. Мы спадзяёмся, што праблема забеспячэння Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі высакаякаснымі музычнымі інструментамі будзе вырашана (ужо сама думка пра закрыццё класа ўдарных успрымаецца як нонсэнс).**



Ларыса Ласоцкая



Юрый Лікін



Уладзімір Навуменка

## ВЕЧАРЫ, СУСТРЭЧЫ

**Адзначыць 95-годдзе з дня нараджэння Рыгора Раманавіча Шырмы ў Доме літаратара сабраліся пісьменнікі і кампазітары, навукоўцы і журналісты, аматары мастацкай самадзейнасці. На вечары гаварылася аб шматграннасці творчай дзейнасці Р.Шырмы, адзначаўся яго вялікі ўклад у развіццё нацыянальнай культуры. Адкрыў і вёў вечар старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР І. Лучанок. Слова пра жыццёвы і творчы шлях Р. Шырмы сказала мастацтвазнавец З. Мажэйка. З успамінамі пра Рыгора Раманавіча выступілі Я. Брыль, Н. Гілевіч, А. Ліс.**

**Прысутныя паглядзелі фільм, прысвечаны Р. Шырме. На вечары выступіла Акадэмічная харавая капэла БССР імя Р. Шырмы.**



Вечар адкрывае Ігар Лучанок.



**У Доме літаратара адбылася сустрэча кіраўніцтва СП БССР з творчымі работнікамі Акадэмічнага тэатра імя Якуба Коласа. У зацікаўленай гаворцы за «круглым сталом» прынялі ўдзел Н. Гілевіч, А. Жук, В. Казько, В. Зуёнак, галоўны рэжысёр тэатра В. Мазынскі, прадстаўнікі розных пакаленняў коласаўцаў. Было падкрэслена важнае значэнне тэатральнага мастацтва ў справе выхавання савецкага чалавека, адзначаны плён працы коласаўцаў па зберажэнні традыцый беларускага тэатра, закрануты надзённыя праблемы ўзаемадзеяння сцэны і літаратуры.**

**Лагайчане свята ўшаноўваюць памяць пра пісьменніка Уладзіміра Карпава. Тут, на тэрыторыі раёна, у грозныя гады Вялікай Айчыннай вайны ён партызаніў, адсюль, будучы разведчыкам, хадзіў на адказныя заданні ў акупіраваны Мінск, ладзіў сувязі з падпольшчыкамі.**

**У літаратурным музеі лагойскай СШ № 1 У. Карпаву прысвечаны асобны раздзел. Экспануюцца творы пісьменніка, шматлікія здымкі, дакументы. Сюды часта наведваюцца сваякі і блізкія Уладзіміра Барысавіча, яго таварышы па сумеснай барацьбе з ворагам.**

**Нядаўна ў школе адбыўся вечар, прысвечаны 75-годдзю з дня нараджэння У. Карпава. У госці да лагайчан прыехалі П. Прыходзька, М. Гроднеў, Герой Савецкага Саюза М. Осіпава, партызанскі разведчык К. Груздзеў, народная артыстка БССР М. Захарэвіч, жонка Уладзіміра Барысавіча М. Карпава.**



Пра Уладзіміра Карпава ўспамінае Пятро Прыходзька.

**Тыя, хто выступіў на вечары, дзяліліся ўспамінамі пра У. Карпава, расказвалі пра яго баявую і творчую дзейнасць. М. Захарэвіч прачытала апавяданне пісьменніка «Горкі вянок».**

**Б. САСНОЎСКІ.**



Вечар вядзе Яўген Міклашэўскі.

**70-годдзе з дня нараджэння Янкі Непачаловіча адзначана вечарам у Доме літаратара. Вядучы вечара Я. Міклашэўскі, Р. Няхай, П. Пранузэ, М. Скрыпка, М. Татур нагадалі асобныя моманты з жыцця і творчасці паэта.**

**Творы Я. Непачаловіча прагучалі ў выкананні артыстаў мінскіх тэатраў.**

**Лідзія Арабей і Адам Мальдзіс сустрэліся з выкладчыкамі і студэнтамі філалагічнага факультэта Брэсцкага педагагічнага інстытута імя А. С. Пушкіна. Загадчык кафедры беларускай літаратуры прафесар У. Калеснік коратка спыніўся на аналізе творчых задач, якія вырашаюць у сваіх кнігах Л. Арабей і А. Мальдзіс.**

**Аб працы над кнігай «Стану песняй» прысвечанай жыццёваму і творчаму шляху Цёткі, расказала Л. Арабей. А. Мальдзіс засяродзіў увагу аўдыторыі на праблемах вывучэння беларускай дакастрычніцкай літаратуры, гаварыў аб рабоце сектара старажытнай беларускай літаратуры Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР, які ён узначальвае.**

Тэкст і фота
У. СЕНЬКАЎЦА



Госці даюць аўтографы.



Валянціна Аколава чытае свае вершы.

**Прэм'ера кнігі Валянціны Аколавай «За тым лугам зеляненькім» прайшла ў рэспубліканскім Доме работнікаў мастацтваў. Паэтэса Р. Баравікова, крытык Т. Чабан адзначалі блізкасць творчасці В. Аколавай да фальклору, падкрэслілі шматграннасць характару яе лірычнай гераіні.**

**Валянціна Аколава пазнаёміла прысутных са сваімі творамі.**

Тэкст і фота
Ул. КРУКА.

**У Доме літаратара Святлана Алексіевіч сустрэлася з групай турыстаў з Федэратыўнай Рэспублікі Германіі, у складзе якой былі педагогі, гісторыкі і рэлігійныя дзеячы. Госці задалі пісьменніцы шмат пытанняў. Асабліва іх цікавілі праблемы захавання міру на зямлі, адлюстраванне іх у літаратуры пра вайну.**

**Такія сустрэчы дапамагаюць устанавіць сяброўскія кантакты, знайсці ўзаемаразуменне паміж людзьмі,— заявілі прадстаўнікі групы.**

**Л. ЧАРЭШНЯ.**

## ЛЮДЗІ МАСТАЦТВА

# Цётчына песня ў камені

Мы не з гіпсу, мы—з камення.
Мы — з жалеза, мы — са сталі.
Нас кавалі у пламенні,
Каб мацнейшымі мы сталі —

так прамовіла восемдзесят гадоў назад Цётка, пясняр і выказнік вольналюбівых дум і пачуццяў нашага народа. І наўрад ці яна думала тады, што яе вобраз не адзін раз будзе хваляваць скульптараў, што яна сапраўды будзе «з камення», «з жалеза», «са сталі». Але час павярнуўся так, што яе словы можна разумець у літаральным сэнсе. Яе вобраз стаў крыніцай натхнення не для аднаго чалавека. Пра яе сказана, напісана, зроблена шмат. Вось і зараз над вобразам Цёткі захоплена працуе заслужаны дзеяч мастацтваў БССР скульптар Андрэй Заспіцкі. Мне пашчасціла пабываць у яго майстэрні.

Я ўжо ведаў, што Андрэй Міхайлавіч не першы раз звяртаецца да вобраза Цёткі. Добра вядома яго работа 1957 года, якая стала помнікам паэтэсе. Але калі я спытаў, чаму скульптар зноў звярнуўся да яе вобраза, ён адказаў, што гэты зварот не другі і не трэці. «Цяжка падлічыць,— гаварыў А. Заспіцкі, — каторы раз я працую над вобразам Цёткі. Здаецца, пяты. Але цяпер Паэтэса прыйшла да мяне больш цэльнай, адухоўленай. Я шмат ведаў пра яе і дагэтуль. Аднак дух Цёткі, яе душу я спасціг, бадай, толькі ў працэсе работы. Шмат чытаў. Яе творы і творы пра яе жыццё. Без гэтага працаваць проста немагчыма. Дарэчы, працую ўжо два гады. Першы варыянт давёў амаль да канца, але адчуў незадавальненне. Разбіў скульптуру, каб пачаць з нуля. Прызнацца, і зараз не ўсё задавальняе...»

Андрэй Міхайлавіч падышоў да мадэлі будучага помніка і зняў плёнку. што прыкрывала работу. Найперш увагу прыцягваў твар. Я адчуў: гэта Цётка. Скульптар здолеў перадаць душу паэтэсы. Пранікнёнасць, мэтанакіраванасць, цэльнасць натуры як бы струменілі з яе вачэй. Мужны выраз твару, азораны мудры пагляд няйначай сведчылі аб глыбіні думкі паэткі, думкі пра будучыню свайга народа.

Андрэй Міхайлавіч настойліва, упарта працуе над агульнай кампазіцыяй. Напярэдадні, бяссоннай ноччу, у скульптара выбліснула думка: «А нашто спінка лаўкі, на якую прысела паэтэса? Яна абцяжарвае, «вяжа» кампазіцыю. Яе неадкладна патрэбна зняць!» І вось ён пры мне рашуча ідзе да станка і энергічнымі рухамі «адсек» кавалкі гліны, якія яшчэ мінуту назад былі апірышчам рукі паэтэсы. Вось што тут патрэбна — свабода. Прастор».

Заспіцкі гаварыў гэта не мне — услых думаў, як бы падахвочваў сябе, сцвярджаў правільнасць свайго рашэння. Прыдзірліва агледзеў зробленае. Падняў з падлогі жменю мокрай глінянай «стружкі». Адчувалася — узяў у руку з асалодаю. Прыхапіўшы мой позірк, Андрэй Міхайлавіч растлумачыў: «Нягледзячы на ўсе складанасці работы з глінай, люблю працаваць з гэтым матэрыялам. У ім ёсць нешта ад зямлі. І гэтае, зямное, дапамагае ствараць вобраз». Ён скамячыў гліняную стружку», хутка абышоў скульптуру, прыпыніўся: «Вецер. Адчуванне ветру павінна быць. Ён ірве хустку Алаізы. Пасма валасоў выбілася з-пад хусткі...»

Ён дакрануўся за «валасоў» рукой, і гэтая пасма з'явілася. Заспіцкі тварыў. Радасна. Натхнёна. Гэта быў яркі творчы парыў. Я радаваўся, што прысутнічаю пры таінстве натхнёнага тварэння. Творца нібы забыўся на мяне. Працаваў смела, хутка. Некалькі разоў пераключаў святло, каб праверыць сваё рашэнне пры розных святлацэнях.

Па ўсім было відно, што наступіў самы цікавы і адказны перыяд работы. Сам Андрэй Міхайлавіч пра гэта сказаў так: «Ужо створана аснова скульптуры, ужо выразна выяўляюцца яе асноўныя асаблівасці, і трэба толькі давесці работу. Але гэта і самы складаны перыяд, бо трэба з найбольшай патрабавальнасцю заўважыць, выправіць тыя недахопы, тыя памылкі, якія яшчэ ёсць. А яны ёсць. Разумееце? — абавязкова выправіць! І ўсё ж гэты перыяд работы над скульптурай вельмі люблю».

Трэба было бачыць яго вочы, дакладныя рухі, каб зразумець, адчуць вялікі творчы патэнцыял сапраўднага майстра. Бачачы яго за работай, іншымі вачыма пачынаеш глядзець на скульптуру. Надаеш увагу дэталям, «дробязям», разумееш, што часам яны і ствараюць цэльны вобраз.

— Скульптура дзейнічае на кожнага сваім аб'ёмам, сваёй формай,— гаворыць А. Заспіцкі.— Праз яе я павінен данесці да гледача змест. Праз форму. І толькі праз яе магчыма гэта зрабіць. Таму я надаю столькі ўвагі форме, кампазіцыі. Гэта і ёсць пластычнае вырашэнне адзінства зместу і формы.

Андрэй Міхайлавіч з любоўю зірнуў на Цётку, сабраў скульптарскія прылады і са словамі «на сёння — усё» пачаў закрываць скульптуру: мокрай тканінай, затым цыратай, якую замацаваў вялікімі прышчэпкамі. Цяпер можна было і пагаварыць. Але я разумеў, што найбольш яскрава расказаў мне скульптар пра сябе самой работай, працэсам тварэння. І я задаў яму толькі адно пытанне: «Андрэй Міхайлавіч, а ці не шкада вам будзе расставацца з Цёткай?» Скульптар падумаў, сказаў: «Работа яшчэ працягваецца. Але каб паўнацэнна працаваць, мне ўжо трэба ведаць месца, дзе яна будзе ўстаноўлена; толькі так я здолею яе «ажывіць»... І тады, я думаю, мне не будзе шкада расставацца з Цёткай. Яна пойдзе да людзей. Са мной жа застанецца бунтоўны дух паэтэсы. А яе месца ў майстэрні зойме Адам Міцкевіч!»

Быў ужо позні вечар, калі мы з Андрэем Міхайлавічам выйшлі з майстэрні. Неба, усыпанае зоркамі. Мокры вецер. А на душы — светла і цёпла. У майстэрні А. Заспіцкага я адкрыў для сябе бясспрэчную ісціну: перамога, поспех у мастацтве — вынік напружанай, цяжкай, адухоўленай працы, памножанай на бяссонныя ночы і шматлікія дні творчага пошуку і гарэння.

**Уладзімір ЛАПАТА,**
**студэнт БДУ**
**імя У. І. Леніна.**

# «АДНОЛЬКАВА СВАБОДНА ВАЛОДАЦЬ...»

**У рэдакцыю прыходзяць пісьмы, аўтары якіх звяртаюцца з пытаннямі аб тым, што ўяўляе сабой двухмоўе ва ўмовах Беларусі, якія яно мела гістарычныя карані і формы, як развівалася, якія набыло прыкметы і асаблівасці, як адбіваецца на культурным будаўніцтве. Пра гэта пішуць у сваіх лістах Л. Тарасенка з Мінска, Ц. Чайчыц з Масквы, М. Шуканаў з Гомеля, К. Новікаў з Вільнюса... Задаюцца чытачы і пытаннем пра тое, што робіцца беларускімі лінгвістамі па вывучэнні двухмоўя і моўнага працэсу ў рэспубліцы.**

**У якасці адказу друкуем артыкул доктара гістарычных навук, загадчыка аддзела рускай мовы Інстытута мовазнаўства АН БССР Аляксандра Мікалаевіча Булыкі.**

У ВЫНІКУ правядзення ленінскай нацыянальнай палітыкі ў нашай краіне атрымалі ўсямернае развіццё ўсе нацыянальныя мовы і разам з тым шырока распаўсюдзілася руская мова. Ператварэнне мовы рускай нацыі ў сродак міжнацыянальных зносін выклікала ў Савецкай краіне развіццё нацыянальна - рускага двухмоўя. Двухмоўе ў прамым сэнсе слова — гэта веданне асобай дзвюх моў і карыстанне імі. Пад нацыянальна-рускім двухмоўем трэба разумець валоданне прадстаўнікамі розных народаў СССР як сваімі нацыянальнымі мовамі, так і рускай у ступені, якая забяспечвае, як мінімум, магчымасць элементарных зносін. Але ў той жа час—гэта яшчэ і адначасовае функцыяніраванне нацыянальнай і рускай моў на пэўнай тэрыторыі, у канкрэтным калектыве, які аб'ядноўвае прадстаўнікоў розных нацыянальнасцей.

Двухмоўе вядома са старажытных часоў. Розныя тыпы яго ўзнікалі ў пэўных асоб або груп людзей ва ўсе гістарычныя эпохі, бо ніводзін народ, носьбіт той ці іншай мовы, не можа жыць цалкам ізаляваным жыццём, не ўступаючы ў кантакты з прадстаўнікамі іншых народаў. Але агульныя напрамкі развіцця двухмоўя заўсёды вызначаюцца характарам грамадскіх адносін. Шматвяковым вопытам чалавецтва пераканаўча даказана, што грамадска-эканамічныя фармацыі, заснаваныя на антаганізме класаў, не спрыяюць фарміраванню раўнапраўнага двухмоўя, паколькі, нягледзячы на спецыфіку ўласцівых ім заканамернасцей, кожная з іх абавязкова кіруецца палітыкай падначалення адных нацый другімі, прыцяснення нацыянальных культур і моў. Аб рэальных магчымасцях для развіцця гарманічнага двухмоўя можна гаварыць толькі ў адносінах сацыялістычнага грамадства, дзе няма месца класавай і нацыянальнай варожасці.

Ва ўмовах савецкай рэчаіснасці двухмоўе, і перш за ўсё яго асноўны тып у нашай краіне — нацыянальна - рускае, набірае ўсё больш высокі тэмп развіцця. Гэтаму садзейнічаюць інтэнсіўныя зрухі, якія адбываюцца ў сучасным эканамічным і сацыяльным жыцці. Сярод фактараў, што аказваюць асабліва моцнае ўздзеянне на развіццё нацыянальна - рускага двухмоўя, асноўнае месца займае пашырэнне і ўмацаванне гаспадарчых і культурных сувязей паміж рознымі рэгіёнамі СССР. Буйныя сацыяльна - эканамічныя пераўтварэнні, звязаныя з асваеннем прыродных багаццяў, шырокамаштабным прамысловым будаўніцтвам, прыводзяць да змен нацыянальнага складу рэспублік, выклікаюць міграцыйныя працэсы, рост насельніцтва гарадоў, а значыць, пашыраюць міжнацыянальныя сувязі і, натуральна, умацоўваюць пазіцыі мовы міжнацыянальных зносін.

У закладванні асноў нацыянальна - рускага двухмоўя значная роля належыць агульнаадукацыйнай школе, дзе вывучаюцца і родныя, і руская мовы, а таксама каналам масавай камунікацыі і інфармацыі, якія карыстаюцца дзвюма мовамі ў выданні газет і часопісаў, трансляцыі радыё- і тэлеперадач.

Сацыяльна - эканамічныя пераўтварэнні характэрны для ўсіх рэгіёнаў краіны. Гэта сведчыць, што няма ў нас ніводнай саюзнай ці аўтаномнай рэспублікі, дзе б не развівалася нацыянальна-рускае двухмоўе і не знаходзіла пашырэнне руская мова як сродак зносін народаў СССР. Аднак маштабы гэтага пашырэння ў розных рэгіёнах краіны неаднолькавыя.

БССР належыць да ліку рэспублік з найбольш развітым двухмоўем. Прычыны лёгкага засваення беларусамі рускай мовы ляжаць у агульнасці іх паходжання з адной старажытнарускай мовы, у блізкасці іх граматычнага і лексічнага ладу, у агульных вытоках культур двух братніх народаў. Нягледзячы на шматвяковае знаходжанне беларусаў у складзе Вялікага княства Літоўскага іх кантакты з прадстаўнікамі Маскоўскай Русі ніколі не перапыняліся. Само геаграфічнае становішча Беларусі рабіла яе тэрыторыю злучальным звяном паміж Маскоўскай дзяржавай і дзяржавамі Цэнтральнай і Заходняй Еўропы, а беларускую мову — актыўнай пасрэдніцай паміж рускай і заходнеславянскімі, заходнееўрапейскімі мовамі. Развіццё палітычных, эканамічных і культурных кантактаў прадстаўнікоў двух народаў служыла ўзаемаўзбагачэнню рускай і беларускай моў пераважна на лексічным узроўні. У рускую мову канца XVI — першай чвэрці XVIII стагоддзя ўлілося з беларускай мовы многа неалагізмаў не толькі заходнеславянскага, заходнееўрапейскага паходжання, але і ўласна беларускіх. Беларуская мова пад уплывам рускай папоўнілася многімі цюркізмамі і спрадвечна рускімі словамі.

Зразумела, гаварыць аб двухмоўі ў шырокім сэнсе гэтага слова ў адносінах да старажытнага перыяду беларуска-рускіх моўных кантактаў не прыходзіцца, бо яны насілі звычайна вузкапрафесійны або вузкалакальны характар, хаця сама з'ява двухмоўя ў той час не з'яўлялася для Беларусі новай. Як сведчаць шматлікія факты, розныя тыпы двухмоўя і нават шматмоўя заўсёды былі важным элементам гісторыі беларускага народа. Культурна-гістарычныя ўмовы ў Беларусі склаліся так, што на ўсім працягу развіцця беларускай народнасці тут захоўвалася беларуска - царкоўнаславянскае двухмоўе, якое ўзнікла яшчэ ў эпоху Кіеўскай Русі. Значна мацней праяўлялася беларуска-польскае двухмоўе, што працягвалася амаль чатыры стагоддзі. Даволі адчувальным было таксама беларуска - лацінскае двухмоўе, уласцівае пераважна адукаваным колам насельніцтва. Практыкавалася беларуска - татарскае, беларуска-яўрэйскае, беларуска-літоўскае двухмоўе. Умовы для зараджэння беларуска - рускага двухмоўя ўзніклі крыху пазней, у канцы XVIII стагоддзя, калі пасля далучэння Беларусі да Расіі руская мова стала дзяржаўнай і на яе тэрыторыі.

Пачатак фарміравання беларуска - рускага двухмоўя як рэальнай, сацыяльна значнай з'явы адносіцца да 30-х гадоў XIX стагоддзя. У гэты час прадстаўнікамі рускай адміністрацыі быў ажыццёўлены рад практычных мерапрыемстваў, накіраваных на паслабленне польскага культурнага ўплыву ў Беларусі і збліжэнне краю з Расіяй у культурных, рэлігійных і моўных адносінах. Руская мова пачала актыўна выкарыстоўвацца ў справаводстве, школьным навучанні, кнігавыданні. Пасля падаўлення паўстання 1863—1864 гг. яна заняла вядучае становішча ва ўсіх сферах жыцця беларускага народа.

Час актыўнага распаўсюджання беларуска - рускага двухмоўя супаў з перыядам нацыянальнага адраджэння беларускага народа. Гэты гістарычны працэс у беларусаў, як і ў іншых славянскіх народаў, суправаджаўся ўзнікненнем новай літаратурнай мовы на народна-дыялектнай аснове, у поўным адрыве ад традыцый мовы старой беларускай пісьменнасці. Аднак у параўнанні з літаратурнымі мовамі іншых славян беларуская мова фарміравалася значна марудней, бо яе развіццё стрымлівалася нацыянальнай палітыкай царызму. Новая беларуская літаратурная мова дасягнула сваёй дасканаласці толькі пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, з перамогай якой беларускі народ атрымаў дзяржаўнасць, права і магчымасць развіваць нацыянальную культуру на роднай мове.

З утварэннем БССР беларуская мова заняла раўнапраўнае становішча сярод моў шматнацыянальнай Савецкай дзяржавы. Яна пачала абслугоўваць усе сферы грамадскага жыцця беларускага народа, яго культуру, навуку, справаводства, выкарыстоўвацца ў школьным навучанні. У савецкі час стабілізаваліся яе літаратурныя нормы, выпрацавалася гібкая сістэма структурна - функцыянальных і выяўленчых стыляў. Зараз гэта мова высокаразвітай мастацкай літаратуры, тэатра, радыё, тэлебачання. На ёй выдаюцца дзяржаўныя законы, творы класікаў марксізму - ленінізму, лепшыя творы пісьменнікаў народаў СССР і зарубежных аўтараў.

Адначасова з усебаковым развіццём беларускай мовы адбывалася ўсё больш актыўнае засваенне беларусамі мовы міжнацыянальных зносін. Асабліва шырокія памеры беларуска-рускае двухмоўе прыняло ў апошнія дзесяцігоддзі. Паводле даных Усесаюзнага перапісу насельніцтва, у 1979 г. беларускай мовай валодала каля 83 працэнтаў насельніцтва рэспублікі, прычым каля 70 працэнтаў жыхароў БССР лічылі яе роднай. Рускую мову ў Беларусі лічылі роднай 28,3 працэнта насельніцтва, а агульны лік асоб, якія валодалі рускай мовай, склаў 81,9 працэнта ўсіх жыхароў рэспублікі. З пункту погляду развіцця двухмоўя гэта станоўчы факт. Асноўная мэта нашай моўнай палітыкі — дабіцца максімальнага ахопу нацыянальна-рускім двухмоўем насельніцтва ўсёй краіны. Ва ўмовах савецкай рэчаіснасці развіццё нацыянальна - рускага двухмоўя садзейнічае цеснаму збліжэнню народаў, узаемаўзбагачэнню іх культур, авалоданню ўсімі народамі Савецкага Саюза важнейшымі дасягненнямі навукі, тэхнікі, айчыннай і сусветнай культуры. У адпаведнасці з патрабаваннямі ленінскай нацыянальнай палітыкі двухмоўе абавязкова павінна быць гарманічным, гэта значыць і нацыянальныя, і руская мовы павінны ўжывацца паралельна ва ўсіх сферах грамадскага, гаспадарчага і культурнага жыцця народаў з улікам канкрэтнай сітуацыі зносін. Меркаванне асобных моваведаў, быццам адны грамадскія сферы могуць абслугоўвацца рускай мовай як міжнацыянальнай, а іншыя — нацыянальнымі, сучасная савецкая сацыялінгвістыка лічыць памылковым, бо такі «падзел» па сферах фактычна азначае выбарачнае ўжыванне і рускай мовы, і мовы нацыянальнай, што, у сваю чаргу, звужае выкарыстанне іх стылістычных магчымасцей і рэсурсаў.

Зразумела, ні аб ступені валодання беларусамі роднай і рускай мовамі, ні аб канкрэтных сферах функцыяніравання дзвюх моў на сучасным этапе развіцця грамадства, ні аб суадносінах іх у кожнай з функцыянальных сфер статыстычныя даныя нічога не гавораць. Ды і колькасныя паказчыкі ўстарэлі за тыя сем гадоў, што прайшлі пасля перапісу. Зараз на вуліцах сталіцы БССР часцей гучыць рускае, чым беларускае слова. А як абстаяць справы ў раёне, у вёсцы? Ці не страціць беларус выпакутаваную ў вяках феадальнага і капіталістычнага прыгнёту і ўзнятую ў савецкі час на небывалую вышыню дасканаласці родную мову, а разам з ёй і сваю нацыянальную самабытнасць? Адказ на гэтыя пытанні без дастатковага вывучэння моўнай сітуацыі ў рэспубліцы, без аналізу рэальных фактаў, уліку шырокай грамадскай думкі не можа быць грунтоўным.

Нацыянальна-рускае двухмоўе з прычыны яго вялікай сацыяльнай значнасці ў апошнія два дзесяцігоддзі зрабілася аб'ектам пільнай увагі лінгвістаў і сацыялінгвістаў. У працах, прысвечаных праблемам нацыянальна-рускага двухмоўя, вывучаецца лінгвістычная сутнасць і сацыяльны эфект двухмоўя, даследуюцца працэсы ўзаемадзеяння моў народаў СССР. Ставяцца задачы вызначыць грамадскія функцыі рускай і нацыянальных моў, вывучыць сацыяльна-грамадскія сферы іх функцыяніравання ва ўмовах кожнай рэспублікі. У святле гэтых задач Інстытут мовазнаўства Акадэміі навук СССР сумесна з мовазнаўчымі інстытутамі рэспубліканскіх акадэмій у бягучай пяцігодцы прыступіў да выканання шасцітомнай каардынацыйнай працы ўсесаюзнага значэння «Тыпалогія двухмоўя і шматмоўя ў СССР, тэндэнцыі іх функцыяніравання і развіцця». У падрыхтоўцы першага тома «Асноўныя тыпы двухмоўя і шматмоўя на Украіне, у Беларусі і ў Малдавіі» непасрэдны ўдзел прымае аддзел рускай мовы Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР.

Работа ў гэтым напрамку распачата. Яе першы этап — вывучэнне моўнай сітуацыі ў розных мясцовасцях Беларусі. Усяго запланавана абследаваць 18 раёнаў рэспублікі — па 3 раёны з кожнай вобласці. Для ажыццяўлення гэтай мэты вызначана сетка экспедыцыйных маршрутаў, створаны сацыялінгвістычны атрад «Двухмоўе ў БССР». Адначасова вывучаецца моўная сітуацыя ў г. Мінску. Абследаванне праводзіцца спосабам назірання над сучаснай моўнай практыкай і праз выкарыстанне спецыяльных анкет. Агульныя анкеты прадугледжваюць сацыяльна-культурную характарыстыку адміністрацыйна - тэрытарыяльных адзінак і асобных населеных пунктаў, даюць уяўленне аб характары двухмоўя на прадпрыемствах і ва ўстановах, аб моўнай практыцы ў рабоце партыйных, савецкіх, камсамольскіх і прафсаюзных органаў. Індывідуальныя анкеты, якіх у кожным раёне запаўняецца не менш 500, служаць для выяўлення функцыянальных суадносін беларускай і рускай моў. Апытанню падлягае сацыяльна актыўная частка насельніцтва рэспублікі: рабочыя і інжынерна-тэхнічныя работнікі прадпрыемстваў, служачыя ўстаноў, калгаснікі, студэнты, настаўнікі, урачы, прадстаўнікі іншых прафесій. У канчатковым выніку даследаванне будзе грунтавацца на даных не менш чым 20 тысяч анкет. Гэта павінна паслужыць надзейнай базай для пэўных вывадаў і абагульненняў.

На сённяшні дзень абследаваны чатыры раёны — Навагрудскі Гродзенскай, Ушацкі Віцебскай, Горацкі Магілёўскай абласцей і Першамайскі раён г. Мінска. Зразумела, на базе трох сельскіх і аднаго сталічнага раёнаў нельга рабіць катэгарычныя сцвярджэнні пра характар двухмоўя на ўсёй тэрыторыі Беларусі, аднак аб агульнай тэндэнцыі яго развіцця меркаваць можна. Напрыклад, даныя па Навагрудскаму, Ушацкаму і Горацкаму раёнах паказваюць, што тут склаліся спрыяльныя ўмовы для заняцця рускай мовай непадзельнага становішча ва ўсіх сферах грамадска-палітычнага, адміністрацыйнага і вытворчага жыцця. На ўсіх прадпрыемствах і ва ўсіх установах гэтых раёнаў руская мова, як правіла, ужываецца ў афіцыйнай перапісцы і справаводстве, на нарадах, з'яўляецца мовай павышэння прафесійнага ўзроўню работнікаў, мовай тэхнічнай дакументацыі. Яна ж выступае ў якасці рабочай мовы партыйных, савецкіх, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый як раённага ўзроўню, так і пярвічных. Беларуская мова выкарыстоўваецца паралельна з рускай у паўсядзённых зносінах, зрэдку ў выступленнях на агульных сходах, часам у насценным друку, пры афармленні шыльдаў.

Бытавое выкарыстанне беларускай мовы шырэй практыкуецца ў вёсках, чым у раённых

цэнтрах. Увогуле ж яно таксама звужаецца, бо зменшылася колькасць вясковага насельніцтва, а гарадское расце. Так, Ушацкі раён з 1979 года зменшыў колькасць вясковага насельніцтва амаль на пяць тысяч, а г. п. Ушачы вырас з 3630 да 5100 жыхароў. Адначасова менш становіцца моладзі, якая ў дастатковым аб'ёме авалодвае беларускай літаратурнай мовай, бо колькасць вучняў сельскіх населеных пунктаў і адпаведна колькасць школ з беларускай мовай навучання з кожным годам скарачаецца, а ў школах райцэнтраў, дзе лік вучняў расце, беларуская мова выкладаецца толькі як прадмет. Прыкладам можа служыць той жа Ушацкі раён, у вёсках якога сем гадоў назад было 3960, а ва Ушачах—500 вучняў, і ў якім зараз вясковых школьнікаў стала 1690, а гарадскіх — 1230. Паказальныя і даныя па Навагрудку, дзе ў 50-я гады былі дзве сярэднія школы — беларуская і руская, а цяпер дзейнічаюць шэсць сярэдніх і адна васьмігадовая школа, усе з рускай мовай навучання.

Сказанае пацвярджаецца і вынікамі індывідуальнага анкетавання. З апытаных 503 жыхароў Навагрудчыны, у ліку якіх 449 беларусаў, 25 рускіх, 29 прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, назвалі роднай мовай беларускую 427, рускую — 49, беларускую і рускую — 23, іншыя мовы — 4 асобы. З 519 інфармантаў Ушаччыны, сярод якіх 476 беларусаў, 37 рускіх, 6 прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей лічаць роднай мовай беларускую 464, рускую—42, беларускую і рускую — 11, іншыя мовы—2 асобы. Аналагічна з 513 інфармантаў Горацкага раёна, сярод якіх 464 беларусы, 38 рускіх, 11 прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, 449 назвалі сваёй роднай мовай беларускую, 32 — рускую, 10 — беларускую і рускую, 2 — іншыя мовы. Пры гэтым нават калі не браць пад увагу асоб рускай нацыянальнасці, якія ўжываюць толькі рускую мову, то з ліку апытаных пераважная большасць — 89,5 працэнта па Навагрудскаму, 87,6 па Ушацкаму і 78,7 працэнта па Горацкаму раёнах — адзначае, што чытаюць, пішуць і свабодна гавораць па-руску, а астатнія добра разумеюць рускую мову, але пры карыстанні ёй дапускаюць памылкі пад уплывам роднай гаворкі.

Блізкароднасны характар беларуска-рускага двухмоўя, садзейнічаючы яго распаўсюджанню, разам з тым стварае ў гэтым напрамку і пэўныя цяжкасці. Яны звязаны перш за ўсё з тым, што ва ўмовах блізкароднаснага двухмоўя адбываецца больш глыбокае ўзаемапранікненне моў, чым пры двухмоўі няроднасным. Пры гэтым ідзе парушэнне норм адной мовы пад уплывам другой, якое ў мовазнаўстве вядома пад назвай інтэрферэнцыя. Інтэрферэнцыя больш характэрна для вусных форм мовы, чым для пісьмовых. Ва ўмовах блізкароднаснага двухмоўя яна з'яўляецца асабліва ўстойлівай у галіне фанетыкі. Практычна неабмежаваны магчымасці лексічнай інтэрферэнцыі. Само па сабе ўзаемадзеянне лексічных сістэм служыць крыніцай развіцця беларускай мовы праз рускую грамадска-палітычнай, навуковай, тэрміналагічнай і іншай лексікай або папаўненнем рускага слоўніка беларусізмамі, накшталт «бульба», «жыто», «хата». Аднак масавае двухмоўе — гэта і абавязковая крыніца лексічнай інтэрферэнцыі, што ў сукупнасці з фанетычнымі, марфалагічнымі, сінтаксічнымі памылкамі прыводзіць да скажэння і рускіх, і беларускіх літаратурна-моўных норм. Пры недастатковым адукацыйным узроўні часам і сам гаворачы не можа вызначыць, на якой мове размаўляе. Невыпадкова частка праанкетаваных прызнае, што карыстаецца «змешанай» мовай. Павышэнне культуры беларускага і рускага маўлення ва ўмовах блізкароднаснага двухмоўя мае на ўвазе звядзенне да мінімуму праяўленняў інтэрферэнцыі.

Выбар мовы для зносін залежыць ад сітуацыі, ад таго, у якім асяроддзі аказваецца чалавек, хто па нацыянальнасці яго субяседнік, колькі яму гадоў, дзе адбываецца размова — дома ці ў грамадскім месцы і г. д. Пры гэтым прасочваецца пэўная заканамернасць: чым сталейшага ўзросту чалавек, з якім размаўляюць, або чым вузейшае кола субяседнікаў-беларусаў, тым большая верагоднасць ужывання беларускай мовы, і чым маладзейшы субяседнік або чым большая публічнасць, тым хутчэй адбываецца пераход на рускую мову. Так, з 503 апытаных прадстаўнікоў Навагрудчыны беларускай мовай карыстаюцца для размоў з бацькамі 212, у грамадскіх месцах — 103, пры выступленні на сходах—59 чалавек, рускую мову выкарыстоўваюць адпаведна 100, 102, 321 чалавек. Па Ушацкаму раёну з ліку 519 праанкетаваных асоб гавораць па-беларуску: з бацькамі — 73, з дзецьмі — 56, у грамадскіх месцах — 42, на сходах — 30, па-руску адпаведна — 58, 78, 156, 350 чалавек. Аналагічная тэндэнцыя прасочваецца і па Горацкаму раёну. Даныя па Першамайскаму раёну г. Мінска адрозніваюцца ад паказчыкаў сельскіх раёнаў большай прысутнасцю рускай мовы. Сярод праанкетаваных у гэтым раёне 512 асоб розных прафесій, у ліку якіх 428 беларусаў, 67 рускіх, 17 прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, называлі роднай беларускую мову 328, рускую — 179, рускую і беларускую — 3, іншыя мовы — 2. Прычым 509 чалавек лічаць, што свабодна валодаюць рускай мовай. Паказальныя і наступныя лічбы: з 512 апытаных для размоў з бацькамі карыстаюцца беларускай мовай 77, рускай — 299, з дзецьмі на беларускай мове гавораць 10, на рускай—331 чалавек, у грамадскіх месцах беларускую мову ўжываюць 5, рускую—451, на сходах на беларускай мове выступаюць 13, на рускай — 480 чалавек. Астатнія выкарыстоўваюць рускую і беларускую мовы папераменна ва ўсіх адзначаных сітуацыях.

Абследаваныя адміністрацыйна-тэрытарыяльныя адзінкі — далёка не ўся Беларусь. У іншых мясцінах двухмоўе можа мець сваю спецыфіку. Але тое, што ў трох аддаленых адзін ад аднаго раёнах з трох абласцей асноўныя анкетныя паказчыкі збліжаюцца, гаворыць аб агульнасці моўных працэсаў, якія працякаюць у рэспубліцы. Трэба таксама адзначыць, што шмат хто з апытаных выказвае ў канцы анкеты пажаданне ўзмацняць увагу да нацыянальнай мовы — каб яна вывучалася і выкарыстоўвалася нараўне з мовай міжнацыянальных зносін. Думку многіх добра выказаў 42-гадовы ўрач: «Аднолькава свабодна валодаю беларускай і рускай мовамі і абедзве люблю!». Так і павінна быць пры гарманічным нацыянальна-рускім двухмоўі.

**А. БУЛЫКА,**
**доктар філалагічных навук, загадчык аддзела рускай мовы Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР.**

**НАШ КАЛЯНДАР**

# ПАЭТ РАДАСЦІ І МАРЫ

**Да 200-годдзя з дня нараджэння К. М. БАЦЮШКАВА**



Канстанцін Мікалаевіч Бацюшкаў належаў да плеяды першых рускіх рамантыкаў, гэта адзін з вядучых мастакоў слова пачатку XIX стагоддзя. В. Р. Бялінскі слушна адзначаў, што «Бацюшкаў многа і многа садзейнічаў таму, што Пушкін з'явіўся менавіта такім, якім з'явіўся рэальна».

Вершы Бацюшкава нязменна ўражваюць асаблівай дасканаласцю формы, лірычнай усхваляванасцю, узлётам паэтычнай мары і скульптурнай выразнасцю вобразаў. Глыбокая дакладнасць пры апісанні чалавечых пачуццяў у спалучэнні з вытанчанай апрацоўкай радкоў «лёгкай паэзіі» нараджаюць трывалае ўяўленне пра героя яго паэзіі як чалавека, які жыве ў казачнай паўднёвай краіне радасці, кахання і шчасця.

«Мечтание — душа поэтов и стихов», — пісаў Бацюшкаў у сваім праграмным вершы «Мара». «Смела і шчасліва!» — так ацаніў Пушкін адзін з найбольш эмацыянальных вершаў пра каханне — «Вакханка».

Мір паэтычнай мары для Бацюшкава быў своеасаблівым ідэйным выйсцем з трагічнай несумяшчальнасці яго ідэалаў эпохі Асветніцтва з сацыяльнай рэчаіснасцю Расіі пачатку мінулага стагоддзя. Гэта было свайго роду маральнае ратаванне ад песімізму, рацыяналізму і жорсткасці жыцця.

**О память сердца! Ты сильней**
**Рассудка памяти печальной**
**И часто сладостью своей**
**Меня в стране пленяешь дальной.**

Услаўляючы незалежнасць асобы паэта, культ пачуццяў кахання, сяброўства і натхнення, Бацюшкаў пагарджаў багаццем, пасадамі, славай.

**Порок здесь царствует, порок здесь властелин,**
**Он в лентах, в орденах, повсюду ясно зрим.**

Айчынная вайна 1812 года стала асобным этапам у лёсе паэта і ў яго паэзіі. У той час з асаблівым натхненнем загучала патрыятычная тэма ў вершах «Да Дашкова», «На руінах замка ў Швецыі», «Палонны». Бацюшкаў пабачыў Маскву, калі там панавалі французы, і з болем пісаў:

**...Бродил в Москве опустошенной**
**Среди развалин и могил;**
**Трикраты прах ее священный**
**Слезами скорби омочил.**

Паэт адмаўляецца апяваць радасці жыцця і кахання, пакуль бяда пануе ў родным краі.

**Нет, нет! Талант погибни мой**
**И лира, дружбе драгоценна,**
**Когда ты будешь мной забвенна,**
**Москва, отчизны край златой!**

Страснасць была душой яго паэзіі, таму і пра любоў да Радзімы, гордасць за яе і нават пра ваенныя няўдачы Бацюшкаў змог расказаць не мовай класіцыстаў, а голасам чалавечага сэрца, якое хвалюецца і плача, баліць. Пачуццё патрыятызму ўпершыню было раскрыта ў лірычным плане.

Не менш поспех у сучаснікаў мелі і сатырычныя вершы Бацюшкава, проза, крытычныя разважанні пра асаблівасці лёгкай паэзіі.

Творы Бацюшкава, надрукаваныя асобным выданнем пры жыцці паэта толькі аднойчы ў двухтомных «Вопытах у вершах і прозе» (1817 год), сталі падзеяй у літаратурным жыцці Расіі. Прачытаўшы іх, Пушкін зрабіў на палях запіс: «Што за цудатворац гэты Бацюшкаў!»

Ацэньваць месца і ролю Бацюшкава ў гісторыі рускай літаратуры, не звязваючы іх з Пушкіным, гэтак жа немагчыма, як гаварыць пра фарміраванне паэзіі Пушкіна, не ўлічваючы ўплыву творчых адкрыццяў Бацюшкава. «Які цудоўны рамантызм Бацюшкава, у ім столькі прыгажосці і яснасці... Пачуццё, адухатвараючае паэта, заўсёды рухаецца, расце само па сабе, падобна да расліны, якая, праглянуўшы з зямлі сцяблінкай, з'яўляецца пышнай кветкай, што дае плод», — пісаў Бялінскі і адзначаў далей, што пасля такіх вершаў павінны былі з'явіцца не якія-небудзь, а менавіта пушкінскія.

«Талент моцны і самабытны», «выдатны талент» — так неаднойчы пісаў Бялінскі пра Бацюшкава і дадаваў, што гэты талент быў задушаны часам.

Сапраўды, жыццё Бацюшкава, ягоны асабісты лёс былі вельмі трагічны. Сын збяднелага дваранiна, ён заўсёды адчуваў матэрыяльную неўладкаванасць. Служба ва ўстановах царскага апарату патрабавала ўмення прыслужвацца і таму была невыносна цяжкай, а вайсковая — не прыбавіла ні грошай, ні чыноў, толькі неабходнасць залечваць раны. Галоўная справа жыцця — паэтычная творчасць — выклікала незадаволенасць і начальства, і родных. Па сваім душэўным складзе (вельмі выразна выяўлена гэта ў лістах да сяброў і дзённіках) Бацюшкаў быў тыповым прадстаўніком перадздекабрысцкага часу, часу фарміравання светаадчування «лішніх людзей» у Расіі.

Душэўная хвароба адарвала паэта ад творчасці. Але і тое, што ён паспеў напісаць, хвалюе і ўражвае і сучаснага чытача.

**Людміла ЗАРЭМБА.**

# ДВОЕ З ПЕРШАГА ВЫПУСКУ

**Іх было 29 — ліцэістаў першага пушкінскага выпуску. Пасля заканчэння ліцэя ў 1817 годзе двое з іх на кароткі тэрмін аказаліся цесна звязанымі па службоваму абавязку з Беларуссю. Гэтыя двое, якія шэсць гадоў правялі побач з юным Пушкіным, — Павел Мясаедаў і Уладзімір Вальхоўскі. У экспазіцыі, прысвечанай 175-годдзю заснавання ліцэя і разгорнутай у залах Усесаюзнага музея А. С. Пушкіна ў горадзе Пушкіне пад Ленінградам, прадстаўлены іх партрэты. Іканаграфія ліцэістаў у розныя перыяды іх жыцця на працягу доўгіх год старанна збіралася і вывучалася былым галоўным захавальнікам музея-ліцэя М. Рудзенскай. Сёння гэтую работу прадаўжае яе дачка, літаратуразнаўца С. Балашова-Рудзенская.**

**— Род Мясаедавых, — каменціруе Святлана Давыдаўна партрэты, якія мяне цікавяць,— належаў да старадаўняга роду, вядомага яшчэ з часоў Маскоўскай Русі. У ліцэй Павел Мясаедаў паступіў у дванаццаць год, займаў ён пакой-спальню № 41. У навучанні выкладчыкі адзначалі ў яго «прилежание и усердие», а таксама добры характар. Як быццам прадбачачы яго будучую (гэтак жаданую для ліцэіста!) гусарскую службу ў Гродзенскім палку, але адначасова і намякаючы на магчымую для гэтага пратэкцыю (усё-такі прыналежнасць да старадаўняга роду!), ліцэісты гарэзліва спявалі ў сваіх «нацыянальных песнях»: «Поль протексией бояров будет юнкером гусаров...»**

**Ды і дырэктар ліцэя Е. Энгельгардт пісаў у сваім дзённіку пра такую магчымасць ваеннай службы для ліцэіста: «Ніхто так добра і элегантна не апранаўся, ніхто не хацеў бы так, як ён, ужо зараз стаць гусарам...» І сапраўды, адразу ж пасля заканчэння ліцэя Павел Мясаедаў паступае карнетам ва ўланскі полк, а ў 1821 годзе робіцца прапаршчыкам Гродзенскага гусарскага палка, і тры гады жыццё яго было звязана з Гродна і наваколлямі.**

**Прыблізна ў той жа час знаходзіўся ў паходах з гвардыяй у Віцебскай і Мінскай губернях другі выхаванец ліцэя — Уладзімір Вальхоўскі. З дзяцінства ўпарта ішоў ён да пастаўленай ім мэты: хацеў стаць ваенным. За спартанскі лад жыцця Вальхоўскі атрымаў мянушку «Суворчык». Пасля выхаду з ліцэя пачынаецца бліскучая ваенная кар'ера. У 1821—1822 гадах — служба ў Беларусі: загартаваўшы сябе з дзяцінства, Вальхоўскі лягчэй за ўсіх пераносіць цяжкасці паходнага жыцця. Дзекабрыст А. Розен у сваіх запісках цёпла і з глыбокай павагай пісаў пра Уладзіміра Дзмітрыевіча, з якім ён сустрэўся ў гэтых беларускіх гвардзейскіх паходах. У Мінску, сярод моладзі, Вальхоўскі «всегда кроткий и смиренный», умеў «отклонять пустословие умным взглядом», спыняў словам непрыстойныя выхадкі, абараняючы ахвяру зласлоўя. Сярод саслужбоўцаў ён вызначаўся працавітасцю, бліскучай адукацыяй і выдатным веданнем ваенных навук. Але настаў 1825 год, і пасля заканчэння следства над дзекабрыстамі царскі ўрад накіраваў Вальхоўскага, як «прикосновенного» да паўстання, у дзейную армію на Каўказ, устанавіўшы за ім тайны нагляд паліцыі.**

**Калі партрэт Паўла Мясаедава занатаваў яго ўжо ў сталым узросце, то на «ваенным» партрэце Уладзіміра Вальхоўскага мы бачым маладога афіцэра перыяду яго службы ў Віцебскай і Мінскай губернях. Але, відаць, самы цікавы яго партрэт ліцэйскага часу. Гэты малюнак каляровым і італьянскім алоўкамі і акварэллю — работа невядомага мастака. Разам з пяццю іншымі партрэтамі ліцэістаў ён працяглы час захоўваўся ў зборы Г. Семачкінай, а потым быў перададзены ў падарунак Усесаюзнаму музею А. С. Пушкіна.**

**Іх было 29. І кожны пакінуў свой след у гісторыі нашай айчыннай культуры, вызваленчага руху. Так і застаецца ён у нашай памяці, гэты ліцэйскі выпуск 1817 года — першы, пушкінскі.**

**З. АФАНАСЬЕВА,**
**мастацтвазнавец.**

МОЙ РОДНЫ КУТ

# Жыве вёска Нізок...

У наш час усё глыбей праяўляецца патрэба ў вывучэнні культурнай спадчыны, сувязі сённяшняй культуры з культурай мінулага. Традыцыйнае мастацтва кожнага народа нясе ў сабе вялікую выхаваўчую каштоўнасць. Народнае мастацтва — крыніца развіцця эстэтычнай думкі і эмацыянальнага характару народа.

Важным, на наш погляд, з'яўляецца вывучэнне культуры цэнтральнай Беларусі — рэгіёна, які яскрава выяўляе этнічныя асаблівасці беларускага народа. Уяўляе цікавасць, як прыклад развіцця матэрыяльнай культуры, вёска Нізок Уздзенскага раёна і рамяство яе жыхароў.

Архітэктурна - планіровачнае вырашэнне вёскі вельмі своеасаблівае. Яно — вынік гістарычнага развіцця вёскі. З 1557 г. у Беларусі праводзілася зямельная рэформа («Устаў на валокі»). Праз поле пракладалася вуліца, упоперак якой наразаліся надзелы — валокі. Гаспадары павінны былі з аднаго боку вуліцы будаваць хату, а з другога — хлявы і гумно. Калі ў іншых вёсках Беларусі такая планіроўка знікла, то ў Нізку захавалася. Па адзін бок вуліцы ў Нізку стаяць хаты, па другі — гаспадарчыя пабудовы для жывёлы, птушкі, інвентару. У дарэвалюцыйны час на канцах вуліцы былі вароты.

Большасць хат у Нізку ашалявана. Шалёўка адыгрывае дэкаратыўную ролю, а таксама захоўвае зруб ад атмасферных уздзеянняў. Шалёўка часцей за ўсё складаецца з паясоў. Ніжні пояс — з вертыкальных дошак, сярэдні зашываецца гарызантальна, верхні складаецца з кароткіх вертыкальных дошак, якія ў ніжняй частцы могуць завяршацца арнаментам. Важную дэкаратыўную ролю адыгрывае паддахавае акно. Франтон таксама зашываецца дошкамі — гарызантальна або ў елачку. У асобных хатах застрэшак упрыгожваецца разьбой.

Ёсць у Нізку дарэвалюцыйныя хаты, ёсць і больш новыя. У сенцах некаторых хат захавалася глінабітная падлога. Раней такія падлогі былі і ў святліцах. Зараз падлогі дашчатыя. У новых хатах столь падшываная, але захавалася і наварачаная.

Галоўным элементам у хаце была (застаецца і цяпер) печ. Варыстая печ займае сёмую частку хаты. За печчу качарэжнік. У падпечку раней трымалі ўзімку курэй, а ў падпрыпеку ставілі чыгуны і гарлачы.

Ад печы да глухой сцяны былі пакладзены дошкі — палок. На ім спалі. Часам у іншай хаце ім карыстаюцца і зараз, калі да бабулі прыязджае шмат гасцей. Каля печы стаяла лаўка, каб лазіць на печ. Праз усю хату падвешваўся шасток — сушыць цыбулю, мокрую адзежу. Памытую і пасушаную адзежу раней прасавалі жалезкам, у які клалі вуглі з печы. Ручнікі, сеннікі, прасціны каталі рубелем.

Сёння сучасны побыт усё больш пранікае ў сялянскую хату. Разам з печчу стаіць газавая пліта. Побач з тэлевізарам можна ўбачыць старадаўнюю лаву або куфар.

Самая дарагая, важная і неабходная страва ў сялянскай сям'і — гэта хлеб. Па наяўнасці хлеба і яго якасці раней меркавалі аб дабрабыце працоўнай сям'і. У сялянскай хаце хлеб з соллю, загорнуты ў абрус, ляжаў заўсёды на стале.

Асаблівая ўвага надавалася выпечцы хлеба. Раней кожная гаспадыня пякла хлеб. Традыцыя захавалася ў Нізку дагэтуль. Калі вы зойдзеце ў хату да Марыі Сцяпанаўны Трус, то яна абавязкова пачастуе вас смачным, духмяным хлебам, спечаным так, як навучыла яе маці.







У кожнай хаце бытавалі начоўкі. Малыя начоўкі — апалушкі, у большых мылі бялізну, купалі дзяцей. Кожная гаспадыня ткала, прала, вышывала. І цяпер яшчэ амаль у кожнай хаце засталіся тканыя ручнікі, посцілкі, абрусы. Іх упрыгожвалі вышыўкай і карункамі. Традыцыйная ручная вышыўка бытуе і зараз. Вышыўкай займаюцца гаспадыні ўзімку, летам шмат іншай работы.

Раней ніводная святліца не абыходзілася без абразоў. Калі абразы засталіся ад бацькоў, то і сёння яны вісяць у чырвоным куце. Але зараз абразы не з'яўляюцца неабходным элементам хатняга інтэр'ера. Па сценах святліцы вісіць шмат фотаздымкаў. А ў чырвоным куце звычайна ставяць тэлевізар.

Першае знаёмства з вёскай Нізок выяўляе шмат цікавага ў індывідуальнай культуры яе жыхароў. Мабыць, варта прыгадаць, што вёска нарадзіла такіх вядомых дзеячаў нашай літаратуры, як Кандрат Крапіва, Паўлюк Трус, Лідзія Арабей і інш.

Ва Уздзе створаны музей гісторыі роднага краю, куды жыхары вёскі аддалі шмат цікавых старадаўніх рэчаў хатняга ўжытку.







Святлана СІМАНАВА,
студэнтка 2-га курса Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута.




З 8 ПА 14 ЧЭРВЕНЯ

8 чэрвеня, 20.15

**КАНЦЭРТ АНСАМБЛЯ ЦЫМБАЛІСТАК МІНСКАГА МУЗЫЧНАГА ВУЧЫЛІШЧА ІМЯ ГЛІНКІ.**

У праграме творы Жыновіча, Глебава, Лучанка, беларускія народныя песні.

9 чэрвеня, 18.15

**КАНЦЭРТ ДЗЯРЖАЎНАГА АКАДЭМІЧНАГА НАРОДНАГА ХОРУ БССР.**

Мастацкі кіраўнік і дырыжор — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР заслужаны дзеяч мастацтваў рэспублікі М. Дрынеўскі.

10 чэрвеня, 17.30

**ЗАПРАШАЕ ЧАСОПІС «БЕЛАРУСЬ».**

Гутарка пойдзе аб праблемных артыкулах, якія друкуюцца ў 6-м нумары. Іх аўтары — В. Яноўскі, В. Жук, В. Дубінка падзеляцца сваімі думкамі аб тым, што хвалюе сёння наша грамадства.

Вядучы — галоўны рэдактар А. Шабалін.

11 чэрвеня, 17.50

**ЗАПРАШАЕ ЧАСОПІС «ПОЛЫМЯ».**

Вы сустрэнецеся з пісьменнікам І. Навуменкам, які раскажа пра свой раман «Асеннія матывы», пазнаёміцеся з П. Шыдлоўскім — чалавекам незвычайнага лёсу, які паўвека назад асляп, але пісаў песні, кіраваў хорам, у гады Вялікай Айчыннай вайны быў партызанскім сувязным.

13 чэрвеня, 13.05.

**«СЛОВА—ПАЭЗІІ».**

Новыя вершы В. Тараса.

13 чэрвеня, 13.20

**«МУЗЫКА МАЁЙ РЭСПУБЛІКІ».**

Перадача падрыхтавана да 75-годдзя Л. Абеліёвіча.

Вы пачуеце «Рамантычную прэлюдыю», «Другую санату для фартэпіяна», рамансы на вершы англійскіх паэтаў.

Вядучая — музычны каментатар Л. Барадзіна.

13 чэрвеня, 17.35

**«ЗАМАЛЁЎКІ З ПАЛЕССЯ».**

Вы пачуеце расказы жыхароў вёсак.

13 чэрвеня, 19.55

**«РАМАНСЫ».**

Творы рускіх кампазітараў выконвае народны артыст СССР А. Салаўяненка.

13 чэрвеня, 23.00

**«СУСТРЭНЕМСЯ ПАСЛЯ АДЗІНАЦЦАЦІ».**

У праграме савецкія рок-групы.

14 чэрвеня, 16.15

**«НАШЫ ГОСЦІ».**

На сцэнах Рускага драматычнага тэатра БССР імя Горкага і Дома афіцэраў пачаліся гастролі Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра. Вы сустрэнецеся з калектывам тэатра.






Ч. АЙТМАТАЎ. Буранны паўстанак. І вякуе дзень даўжэй за век. Раман. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987. 2 р. 40 к.

А. БАРОЎСКІ. Каліна пад акном. Мн., «Мастацкая літаратура», 1987.— 85 к.

В. ЗУЕНАК. Маўчанне травы. Пераклад з беларускай. М., «Советский писатель», 1987. — 60 к.

МІНСК КНІЖНЫ. На рускай мове. Мн., «Полымя», 1987. — 30 к.

«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 02172 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП. Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі — 33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела культуры і выяўленчага мастацтва — 33-24-62, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела пісьмаў — 33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Матэрыялы прымаюцца надрукаваныя на машынцы (праз два інтэрвалы). Рукапісаў рэдакцыя не вяртае.